БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА. ЗАСНАВАНАЯ Ў 1906 Г. У ВІЛЬНІ. АДНОЎЛЕНАЯ ТАМСАМА У 1991 Г. З 1 САКАВІКА 1996 Г. ВЫХОДЗІЦЬ У МЕНСКУ. ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»

* * *

*Тое, што потым*
*схавае найменьне сваё,*
*варта дарозе закончыцца —*
*можа, любоў?.. —*
*поўніць мяне адзінотай тваёй*
*да краёў —*
*я то сьмяюся,*
*то ціха пяю, то заплачу...*

*Нешта трывае ўва мне,*
*покуль будуць расстаньні,*
*існае сёньня, што, потым,*
*як морак, растане...*
*Сьмешнае слова прыдумалі людзі —*
*«каханьне»,*
*чуеш: «кахаю»,*
*хоць словы нямногае значаць.*

*Нішчыць адлегласьці ноч.*
*Пасьля зморы будзённай,*
*я паўтараю твае залатыя імёны,*
*нібы зямля пасьля граду*
*жаданых насёнаў,*
*багаслаўляю жыцьцё, і сьвятло,*
*і вясну...*

*Нішчыць адлегласьці сон,*
*а на золку здаецца —*
*злоснае сонца наўжды*
*упіваецца ў сэрца,*
*вострымі промнямі ў вокны*
*насьмешліва б'ецца —*
*што ж, да спатканьня, —*
*да ночы, да новага сну!*

*Т.С.*



НАША НІВА

№ 10 (107) 1 чэрвеня 1998 г.



# Адлюстраваньне аблокаў

Адноўленая напрыканцы траўня 1991 году «Наша Ніва» пачынае сёньня восьмы год свайго існаваньня.

За гэты час не аднойчы зьмяняўся сьвет вакол газэты, зьмянялася і сама «НН». Але пачатковыя прынцыпы засталіся непарушнымі — мы імкнуліся адпавядаць Беларусі. Не паветрыям, што праносяцца па-над ёю, ня ўладам і іхным апанэнтам, і нават не чытачам. Часам нам гэта ўдавалася. Тады ў старонках газэты адбіваўся нясьпешны рух аблокаў, што плывуць па небе нашае Бацькаўшчыны.

У закалотах людзкое нянавісьці мы атрымалі найменьне апазыцыйнай газэты. Нас спрабавалі любіць або ненавідзець у катэгорыях антыўрадавасьці або прыхільнасьці да фронту. Урэшце нас папракалі малым тыражом, слабым уплывам на электарат. «Гэта наша Беларусь яшчэ ня можа ўплываць болей, — казалі мы сабе. — Але мы ня будзем патрафляць электарату, бо гэта значыць — забіваць у сабе Беларусь. Выданьні, якія пайшлі гэтым шляхам, даўно страцілі мэту і смак жыцьця».

Вялікія тыражы сёньня дасяжныя толькі наўзамен прынцыпаў і ідэалаў. І справа нават ня ў тым, што ты пішаш пра групу «на-на», кпіш з калхозьніка-ППРБ або друкуеш рашучыя воклічы лідэра апазыцыі, якія ніколі не спалучаюцца з адпаведна рашучымі дзеяньнямі. Справа ў розумах змагароў за тыраж, якія ня мысьляць сябе ў прасьцягу нацыянальнае традыцыі, ня ведаюць сапраўднае вартасьці слова, бо ніколі не пачыналі з тыражоў «пад капірку». Мы ж памятаем, што якая-небудзь падпольная публікатка 70-х гадоў накладам у 2 асобнікі праз 20 гадоў апасродкавана прывяла да гістарычнага перавароту ў Беларусі, тады як мільённыя газэтныя фаварыты таго (і нашага) часу ў тым часе і засталіся, ніяк не паўплываўшы на сытуацыю.

Няпросты шлях масавае аўдыторыі да беларушчыны. На сёньня прыйшлі толькі тысячы, а ня сотні тысячаў, якія пакуль прыйшлі ў нікуды. Вось на тых, «нікудышных», і робяцца сёньня тыражы. Але для гэтага выдаўцам даводзіцца падладжвацца пад нікудышнасьць. Ці далучаюць свайго чытача да Беларусі сучасныя апазыцыйныя газэты? Па-мойму, наадварот, яны толькі самі аддаляюцца ад яе.

Лукашэнкава РБ і абумоўленая ёю апазыцыйная анты-РБ, электарат і анты-электарат, — гэтыя каардынаты ўсё менш тычацца Беларусі як ідэалу і прынцыпу, як паветра, якім можна дыхаць і за якое можна скласьці галаву. Яны, процілеглыя, усё больш зьліваюцца ў сваёй саўковай скрайнасьці, дзе няма месца ані высокай культуры, ані прафэсійнай навукі або палітыкі. Урэшце ўсё ператвараецца ў пагоню за тыражом саўка — за- або супрацьлукашэнскага — бяз розьніцы.

Зразумела, нас усьцешвае, што за апошні год падпіска на «НН» павялічылася ўдвая, бо мы разумеем вартасьць свае аўдыторыі, якая гуртуецца фармальна вакол «НН», а сутнасна — у Беларусі. Але наша задача — працягваць сваю справу нават тады, калі б з намі не засталося ніводнага чытача. Бо нават калі б у Беларусі не засталося ніводнага абаронцы, мусіць захоўвацца тое месца, куды заўтра змаглі б прыйсьці мільёны.

Беларусь сёньня зноў, як і за саветамі, — па-за палітыкай. Пройдзе яшчэ трохі часу, і яна апынецца па-за навукай і па-за культурай — убогімі падабенствамі савецкіх узораў. Чыстая, яна будзе жыць, як жыла за саўдэпам — міма ладу і міма соцыюму, міма тыражоў і абэцэдаршчыны. Нашая мэта — застацца зь ёю, быць люстэркам жаданьняў, адлюстроўваць нясьпешны бег аблокаў па ейным небе.

**Сяргей Дубавец**

# ДАЧАКАЛІСЯ...

Я доўга чакаў, калі ж нарэшце зьявіцца той творца, які «воспоет» новыя, зацьверджаныя рэфэрэндумам сымбалі краіны. Гэты час цягнуўся неяк да прыкрасьці доўга. Мяне нават ахопліваў нейкі сорам за прэзыдэнцкую эліту.

Але вось да трэцяй гадавіны Першага Рэфэрэндуму у № 65 БПСМаўскай «Знамя Юности» я пабачыў два вершы, прысьвечаныя новым сьцягу і гербу. Браніслаў Спрынчан адзін зь першых захапіў гэтую нішу. «Наш Флаг», «Герб Державы Белорусской». Віншуем!

Вершы перапоўненыя гонарам за нашую краіну і яе сымбалі. Прыгожа напісана: «... Не гривастый лев и не орел, и не всадник, вскинувший клинок, — Утреннего солнца орсол, Из колосьев и цветов венок...» Але шмат людзей, якія не жылі на вёсцы, могуць зблытаць узыходзячае сонца з заходзячым. А вянок... гм... няёмка і сумна прыгадваць, дзе яго можна пабачыць найчасьцей.

Паэт Уладзімер Дубоўка, закатаваны пад чырвоным сьцягам, мабыць, у магіле павярнуўся — цяперака ягоны ўрывак ідзе эпіграфам да верша пра «Наш Флаг»: «О Беларусь, мая шыпшына, зялёны ліст, чырвоны цьвет!» — некалькі гадоў таму ў модзе быў працяг — там дзе: «чарнобылем не зарасьцеш». Але цяперака, як лічаць некаторыя пра Дубоўку: «Дорогого мне поэта мог ли я не вспомнить, если Два его любимых цвета на полотнище воскресли...» Ну нарэшце зьдзейсьнілася апошняя мара Дубоўкі пра беларускі сьцяг. Стаяў сабе паэт перад магілай, марыў, а НКВДэшны кат цэліў у патыліцу.

Дарэчы, пацягнула ад твораў нечым старым і знаёмым. Памятаеце: «Всегда мы помним Ленина и думаем о нем. Мы день его рождения считаем лучшим днем!»

Трэба ўсё ж такі распачаць гаворку пра літаратурных творцаў і рэжымы. Прагледаў неяк старыя нумары «Полымя». Калі зь сёньняшняга дня лічыць — колькі паперы змарнавалі на ўхваленьне Партыі і Правадыра. Некаторым вядомым і «заслуженным», мабыць, крыху няёмка — раптам унукі пажадаюць пачытаць дзядулевы маладзёвыя творы.

Пасьля 90-га адкрыйце «ЛіМ». Здаецца, быццам бы конкурс быў аб'яўлены ці які спаборніцтвы ішлі — хто болей напіша пра вершніка на чырвоным полі і сьцяг з крывавай паласой.

Дзе вы цяпер, тыя вядомыя й «заслужаныя»? Куды падзелася вашая вялікая любоў да нашых сымбаляў. Ці вам зноўку сорамна і няёмка — перад новым урадам і прэзыдэнтам? Не надумалі, не перачакалі! Цяперака пра «Пагоню» і бел-чырвона-белы пішуць толькі маладыя нацыяналісты і рэштка «изгоев», але зь імі й так усё зразумела.

Нашая літаратурная эліта вырашыла зноў перачакаць пэўны час. Агледзецца. Але ж трэба пачынаць некаму, хтосьці павінен быць першым. Пасьля можа й нейкую ўзнагароду за сьмеласьць дадуць, якое званьне. У «новыя» падручнікі разам зь іншымі знакамітасьцямі трапіш. На месца Геніюш, Арсеньневай і Сяднёва.

Ды невялікая памылачка адбылася. Ня будуць помніць гэтыя творы Спрынчана нашчадкі. Бо не патрапяць яны ў падручнікі беларускай літаратуры. Не на той мове напісаныя. У падручнікі па расейскай ці сусьветнай літаратуры? Неяк няёмка казаць, але... ня цягне... не па тэме...

Калі толькі ня зьявіцца ў нашых школках новая дысцыпліна — «Белорусская русскоязычная литература». А то нейкае парушэньне правоў адбываецца.

**Руслан Равяка**

Сёньня многія патрыёты праяўляюць вялікую цікаўнасьць да «беларускай лацінкі» — лацінкавага альфабэту, якім пэўны час у гісторыі пісалі па-беларуску. Прыхільнікі лацінкі заклікаюць таксама адрадзіць лацінку — ці то як адзіны альфабэт, ці то як паралельны з кірыліцай.

Вядома, што ці найбольш моцным довадам каштоўнасьці чагосьці ёсьць традыцыя. Гэты тычыцца і альфабэту, таму прыхільнікі лацінкі згадваюць пра самабытнасьць традыцыі яе ўжываньня, і гэтым падмацоўваецца яе папулярнасьць.

Якая ж традыцыя ў беларускай лацінкі? Апошнім часам можна пачуць, што беларуская лацінка нарадзілася аж у часы ВКЛ, а значыць яе самабытнасьць бясспрэчная: часы ВКЛ — наш «залаты век». Але ці так гэта ўзапраўды? Які яе сапраўдны ўзрост?

Распаўсюдзілася памылковае меркаваньне, што беларуская лацінка ўпершыню зафіксаваная ў 16 ст., яшчэ дакладней (але бліжэй да 17 ст.), у 1596 г. («Наша Ніва», № 13-14, 1997 г., «Беларуская лацінка», Ю.Б., Б.: «Першыя фіксацыі лацінкавага напісаньня беларускіх тэкстаў адносяцца да 16 ст.». «Наша Слова», № 9, 1995 г., «Не панацэя, але важны сродак ўратаваньня нашай мовы і нацыі», Язэп Стапановіч: «Адной зь першых значных кніг, напісаных па-беларуску лацінскім шрыфтам, лічыцца «Казаньні Кірыла» С.Зізанія (Вільня, 1596). На жаль, стваральнік беларускай лацінкі невядомы.»). Памылковасьць такога меркаваньня была даведзеная ў артыкуле «Асьцярожна з лацінкай!» («Наша Слова», № 50, 1995 г.). Тым ня менш, гэта не перашкодзіла па-

# Носьбіты мовы

Мову не абараняюць, на ёй гавораць; культуру не абараняюць, а спажываюць яе прадукцыю. Гэтыя простыя праўды згадваюцца кожны раз, як чуеш на мітынгах заклік прафэсара Карпенкі «забаронім нашу Беларусь ад плянаў дыктатара», або верш прафэсара Шарэцкага пра «няшчасны народ працалюбівы». Мову, культуру носяць: каля сябе, за сабой, у сабе, на сваім гарбе.

**ЗАРАЗІЦЬ АБО ПАМЕРЦІ**

Носьбіт мовы, культуры — вырак і выйсьце — жорстка і трапна. Носьбіт зараду, інфармацыі, віруса і — мовы, культуры. Паспрабуйце перакласьці гэты выраз на іншыя мовы — цяжка.

Калі яе носьбітаў застаецца мала, быццам запалак у пушцы турыстаў, што заблукалі ў лябірынтах (пячоры ці катакомбаў — хто яго знае), мова робіцца сымбалем, знакам богаабранасьці, ці багаборства, ці бажавольства. Носьбіт: можа заразіць, а можа выклікаць жаль, або нянавісьць, пагарду, можа напалохаць, можа загінуць — як пракажоны, як шызафрэнік, як геній.

У вялікіх гарадах Беларусі беларускамоўных цяпер прыкладна столькі сама, як заражаных СНІДам. Кожны прыналежны да моўнай меншасьці носіць у сабе часьцінку гета, расьцярушанага па урбаністычнай прасторы. Гета — гэта я і ты.

Цяжка пазбыцца адчуваньня жывога экспанату ў заапарку «Беларусь», экзатычнага калекцыйнага жука на шпільцы («папаўся, жучку, у панскую ручку!»). «Вы так красіва размаўляеце! Па рабоце ілі как?» — вось адна з рэплік, якую носьбітам мовы часта даводзіцца чуць. Як чалавек, на якога ўвесь час паказваюць пальцам, гарадзкі белмоўны хутка пачынае цаніць маўчаньне і разумець абмежаванасьць рэакцыяў, якія выклікае ў буржуа (о, слодыч і паскудзтва іх сытага жыцьця). Часам нянавісьць: «Мёртвые языки, ну-ну, достояніе человечества...» Fuck off, вы здохнеце хутчэй, чым «мёртвая» мова. Часам парнаграфія: «Как рецензент могу сказать, что работа очень интересная. Правда, белорусским языком я не владею, поэтому не могу полностью оценить...» Кітайскай мовай не валодаю, але магу адзначыць вельмі харошы герогліф у кутку на пятай старонцы.

Бязь яснага ўсьведамленьня таго, што беларускамоўныя жывуць у культурным гета, а іх мастацтва і літаратура ёсьць, папраўдзе кажучы, дыяспарнымі ў сябе на бацькаўшчыне, мы будзем і далей грузнуць у манілаўскіх пражэктах і дурнаёпстве. Сёньняшні стан рэальны, а, дык жа, нармальны. Гэта драматычны, але не трагічны і не камічны стан, як тое спрабуе прадставіць нашая расейскамоўная інтэлігенцыя, гаворачы то пра «звычайнага прэзыдэнта», то пра «калхоз «Беларусь». Гэта ня новы для Беларусі стан (ён паўтараецца ў пасьлясярэднявечнай гісторыі краіны). Гэта не ўнікальны для сьвету стан. Дакладней, ён унікальны толькі тым, што ён стварыўся ва ўмовах існаваньня амальдзяржавы «рэспублікі Беларусь», фармальна ўтворанай вакол тытульнай групы, ядро якой складаюць якраз белмоўныя. Сёньняшняя фіктыўна-беларуская дзяржаўнасьць моцна ўводзіць у зман, але яна стане — у свой час, праз пяць ці сто пяць гадоў, калі ўзьнікнуць мінімальныя эканамічныя перадумовы ці трансфармуецца будова эўрапейскай эканомікі — неацэненай падставай для дасягненьня рэальнай незалежнасьці і яе замацаваньня далучэньнем да палітычнага і ваеннага блёку эўрапейскіх дзяржаваў. І тых, хто мае моцнае пачуцьце грамадзянскага нацыяналізму, гэтае «пяць ці сто пяць» не найбольш турбуе. Проста кожная эпоха мае сваё прызначэньне. Зразумець — вось задача.

Пра аналёгіі. Мы знаходзім іх на Пуэрта-Рыка, у Ірляндыі, Паўночнай Ірляндыі, Нарвэгіі, Чувашыі, Прыднястроўі, Македоніі, Славаччыне, на каморскім востраве Анжуан, жыхары якога патрабуюць, каб іх прынялі назад пад францускую ўладу, ва Ўкраіне, нарэшце (пра «прыклад Украіны» можна пісаць і пісаць, бо ён ужо згуляў і яшчэ згуляе неабыякую ролю). Аналёгіяў сьвет, як і варыянтаў разьвіцьця, і жыцьцё можа павярнуцца любым бокам.

Каб зразумець, трэба дэміталягізаваць сытуацыю.

Маецца фіктыўна-беларуская квазідзяржава, якая што ёсьць моцы выконвае заданьне: не дапусьціць утварэньня ў Беларусі моцнай грамадзянскай супольнасьці. Маецца пануючая сацыяльная група, якая зьяўляецца падмуркам гэтай квазідзяржавы і стаўляе ёй заданьні. Гэтую групу нельга назваць «буржуазіяй», бо яе члены — ня ўласьнікі, а самі найманыя кадры, рабы ананімнай структуры, што хаваецца пад псэўдонімам «дзяржава». Трэба акрэсьліць, з каго складаецца гэтая квазібуржуазія.

Маецца нешматлікая шпрэхтрэгерская беларуская інтэлігенцыя — нацыяналістычная, але кепска адукаваная, неспадчынная і аморфная, а таму схільная да рэзыгнацыі. Маюцца пачаткі грамадзянскай супольнасьці з зародкамі партыяў, рэлігійных грамадаў і ўсяго іншага. Маюцца дзьве культуры і... неакрэсьленая колькасьць моваў і ідэалёгіяў.

У беларускім грамадзтве суіснуюць дзьве культуры, беларуская і расейская, але яно не двухполюснае. Старыя падзелы (камуністы/антыкамуністы) суняліся; новыя або нетрывалыя й нясутнасныя (лукашысты/антылукашысты, багатыя/бедныя), або неўсьвядомленыя (панская група/прыгонная большасьць). Традыцыйныя статыстычныя зьвесткі таксама кажуць няшмат.

Рэальна сёньня маюцца беларускамоўныя (прыкладна 8-11% насельніцтва), расейскамоўныя (прыкладна 45-50% насельніцтва) і тыя, хто выкарыстоўвае «трасянку» (35-40%). Але і гэты падзел не канчатковы.

Расейскамоўныя (іх колькасьць няспынна расьце, пачынаючы ад Другой сусьветнай вайны ды нават ад даўней, за кошт дзьвюх іншых групаў) распадаюцца на два ідэалягічна-культурныя лягеры. Першы складаецца з расейскамоўных расейцаў і татальна дэнацыяналізаваных абарыгенаў (яны акрэсьлівалі расейскую мову як родную нават на перапісе) (усяго 20-25% ад насельніцтва Беларусі). Гэтая група карыстаецца выключна расейскай культурай, заснаванай на ідэалёгіі расейскага (імпэрскага) нацыяналізму або ў ягонай адкрытай этнічнай, або ў прыхаванай нігілістычна-касмапалітычнай форме, і складае ядро панскай вярхушкі. У яе складзе таксама сьвет усялякіх маргіналаў, падобных да старажытнарымскай чыстакроўнай галоты. Усе падзеі 80-90-х гадоў вельмі мала паўплывалі на сьветагляд гэтых людзей: яны працягваюць ігнараваць існаваньне беларускай нацыі і культуры, уважаючы іх калі не за «прыдумку палякаў і пісьменьнікаў», дык, прынамсі, за «сапсаваны», часовы, штучны і нічога ня варты варыянт расейскага («усе мы славяне — адзін народ»).

Да другога адносяцца расейскамоўныя беларусы. Гэтыя, дасканала валодаючы расейскай мовай і карыстаючыся толькі ёю, захоўваюць сувязь зь беларускай культурай (сьвяты, пабытовыя звычкі, вартасьці, пасіўнае валоданьне мовай, эпізадычнае сымбалічнае або настальгічнае спажываньне культурнай прадукцыі, грамадзянска-палітычны нацыяналізм).

Але гэтыя другія таксама не аднародныя. Частка, адукаваная, актыўна выступае за рынкавыя рэформы, незалежнасьць, супраць Лукашэнкі, за дэмакратычныя вартасьці і нават за экспансію беларускай мовы і культуры і «пазытыўную дыскрымінацыю» сваёй (так-так!) расейскай. Такіх нямала, але ўсё ж меншасьць. Іншай частцы расейскамоўных беларусаў усьведамленьня нацыянальнай ідэнтычнасьці бракуе. Іх «бело-(западно)-русскость» больш падобная на тэрытарыяльны патрыятызм, чым на акрэсьленае этнічнае пачуцьцё.

Тым ня менш, абедзьве гэтыя падгрупы займаюць сваё месца ў прэстыжным расейскамоўным сьвеце, «першым сьвеце» савецкай эпохі — сьвеце гарадзкім, адукаваным, адным словам, панскім.

**ТРАСЯНКА ЯК КАМПРАМІС**

Узьлёт Лукашэнкі стаў проста адной з праяваў фэнамэнальнага выйсьця на грамадзкую авансцэну трасянкамоўных. Трасянкаю традыцыйна дазвалялася карыстацца «мясцовым кадрам» вышынёю аж да Дземянцея. Трасянка была дапушчальным, бясьпечным для калянізатараў этапам па шляху дэнацыяналізацыі. Што такое трасянка?

Лінгвістычна група, што ўжывае яе, распадаецца на дзьве падгрупы. Першыя гавораць сапраўды на мяшанцы беларускіх і расейскіх словаў з захаваньнем пераважна беларускага сынтаксысу (жыхары ўсходнебеларускіх вёсак, хутчэй слабей мадэрнізаваных; панямонскіх і паазерскіх мястэчкаў; нізкакваліфікаваныя работнікі ў гарадах; хутчэй жанчыны, чым мужчыны, што служылі ў войску; хутчэй людзі старэйшага ўзросту). Гэтая мяшанка — вельмі ўнутраны дыялект і мае ўжытак толькі ўнутры сям'і, унутры вёскі. У іншых камунікатыўных сытуацыях яго носьбіты хутчэй-хутчэй пераходзяць на расейскую.

Пераход на расейскую мову — пропуск у «лепшы» сьвет. Ад савецкіх часоў замацаваўся стэрэатып, што такі пераход — умова ўваходу ў панскую клясу. Тыя, хто ўжо амаль скончыў гэты пераход, карыстаюцца другім варыянтам трасянкі: расейскай мовай з пэўнай колькасьцю беларускіх і проста гутарковых лексычных, граматычных і, вядома, фанэтычных элемэнтаў.

Культурна-ідэалягічна тыя, хто гаворыць на трасянцы, адрозьніваюцца большай схільнасьцю да ідэяў этнічнага, а не грамадзянскага нацыяналізму і іншымі рысамі, характэрнымі для людзей зь нізкім узроўнем адукацыі.

Колькасна гэтая група будзе ўвесь час зьмяншацца, бо прырастала за кошт беларускамоўных, а крыніца вычарпалася, і бо дзеці трасянкамоўных, пачынаючы з пачатку 90-х, вучацца мове не ад бацькоў, а ад тэлебачаньня. Калярытная гаворка-трасянка мае незаслужаную, але непапраўную адмоўную рэпутацыю, лічыцца прыкметай «бескультурнасьці» і «неадукаванасьці» так, як яшчэ ўчора хамскай лічылася белмова. Трасянкі, як і дыялектаў, не ўратуе ніхто. Аднак жа ў 90-х з трасянкай прымірыліся як з своеасаблівым кампрамісам, а lean compromise, узгадваючы тую ангельскую мудрасьць (ужо ня кажучы пра тое, што соцыяідэялягічная група носьбітаў трасянкі была самай шматлікай).

Беларусафоны. Тут можна адзначыць, з аднога боку, сельскіх жыхароў старога веку, з другога, сіх-тых жыхароў Панямоньня і Паазер'я, а з трэцяга, вельмі малалікую групу інтэлігенцыі і нацыяналістаў (якіх 0,1% ад насельніцтва Беларусі). Першыя неўзабаве адыйдуць, а другія і трэція застануцца носьбітамі таго, што аднойчы

# УЗРОСТ БЕЛАРУСКАЙ ЛАЦІНКІ

мылцы паўтарацца — ужо ў «Нашай Ніве». Таму лічу патрэбным яшчэ раз і падрабязьней зьвярнуць увагу на гэтую памылку, каб зман не пашыраўся далей.

Ні Ю.Б., ні Я.Стапановіч не ўказалі крыніцы пададзеных зьвестак. Аднак яна відавочная: энцыкляпэдыя «Беларуская мова», артыкул «Лацінка», а менавіта сказ: «Лацінка ўжывалася побач з кірыліцай і ў друкаваных кнігах рэлігійных жанраў, напрыклад, «Казаньні Кірыла» (Вільня, 1596), дзе паралельна зь беларускім зьмешчаны польскі тэкст». Сапраўды, будучы настроеным знайсьці зьвесткі менавіта пра беларускую лацінку, можна зразумець гэты сказ так: у ВКЛ па-беларуску пісалі ня толькі кірыліцай, але і лацінкай, і прыклад апошняга — «Казаньні Кірыла» 1596 г., такім чынам, гэта — першая фіксацыя беларускай лацінкі. Магчыма, што і адна зь першых. Магчыма, што ўсе яны адносяцца ня толькі да канца 16 ст., а да ўсяго, цэлага 16 ст.

Тым ня менш, гэты сказ нічога не гаворыць пра беларускую лацінку, пагатоў ня ўказвае яе прыкладаў. Сапраўды, напісана, што лацінка ўжывалася побач з кірыліцай, і ўказаны прыклад такога ўжываньня. Але маецца на ўвазе ня тое, што побач зь беларускамоўнымі тэкстамі на кірыліцы былі беларускамоўныя тэксты і на лацінцы, а тое, што былі кнігі, дзе побач з тэкстамі на мове з кірылічнай графікай былі тэксты на мове з лацінкавай. Якраз пра гэта і гаворыцца ў самым канцы сказу: «... «Казаньні Кірыла» (Вільня, 1596), дзе паралельна зь беларускім зьмешчаны польскі тэкст», г.зн., у «Казаньнях...» на кірыліцы — беларускі тэкст, а на лацінцы — польскі, і гэта прыклад, калі ў кнігах лацінка ўжывалася побач з кірыліцай (а ня першая фіксацыя беларускай лацінкі). Такім чынам, памылка — у няслушным вытлумачэньні згаданага сказу.

А калі ж узьнікла беларуская лацінка? Зрэшты, можа, А.М.Булыка сапраўды адносіць яе першую фіксацыю да 16 ст.? (Згадзіцеся, сказ даволі двухсэнсоўны і спрэчны). Тады гэта павінна пацьвердзіцца і ў яго іншых артыкулах. Цытую артыкул таго ж А.М.Булыкі «Алфавіт» (тамсама): «Кірылічны алфавіт выкарыстоўваўся ў старабеларускім пісьменстве ад 14 да 18 ст. У 18 — пачатку 20 ст., у сувязі зь яго заняпадам стаў ужывацца лацінскі альфабэт, які дагэтуль служыў толькі для афармленьня польскіх і лацінскіх тэкстаў». Як бачым, на гэты раз аўтар выкрашыў ясна і недвухсэнсоўна: беларуская лацінка ўзьнікла не раней за 18 ст. Іншыя навукоўцы таксама не аспрэчваюць гэтага.

Значыць, няма падставаў лічыць яе самабытнай традыцыяй, бо ўзьнікла яна як адгалінаваньне ад традыцыйнага альфабэту польскай мовы, якая выцесьніла нашую з нашай дзяржавы, а зь ёю і нашую кірыліцу; калі ў 1696 беларуская мова была ператвораная зь дзяржаўнай мовы ў крэсовы дыялект, а польская — з замежнай у літаратурна-афіцыйную. Дыялекты, як вядома, ня маюць сваёй пісьмовасьці, і прыкметай ператаварэньня нашай мовы ў крэсовы дыялект якраз была страта ёю афіцыйна-літаратурнага статусу і як наступства — асобнай, кірылічнай пісьмовасьці.

Лацінка — не самабытная, а крэсовая традыцыя. Самабытная — кірыліца, альфабэт вольнай Літвы, а ня Крэсаў. Гэтак лічыў і вядомы патрыёт-мовазнавец Ян Станкевіч (гл. «Гісторыя беларускага языка», Вільня, 1939). І лацінка — не прыкмета «эўрапейскасьці» (ці да 18 ст. на Беларусі панавала «азіяччына»?).

Зрэшты, калі даўнія традыцыі для кагось неістотныя, хай ён згадае, што менавіта яны былі падставай самаўсьведамленьня нашай нацыі і вытокамі Адраджэньня, я маю на ўвазе першы яго маніфэст — прадмову Багушэвіча да «Дудкі беларускай», дзе самабытнасьць беларусаў ён грунтаваў самабытнасьцю іх мовы, бо «чытаў старыя паперы» на гэтай мове.

Магчыма, ня ўсе згодзяцца з гэтымі камэнтарамі і прымуць такі погляд. Але, спадзяюся, іх зацікавіць заця б нескажоная гісторыя лацінкі на Беларусі, данесьці якую лічу сваім патрыятычным абавязкам.

**Віталь Станішэўскі**

ПОШТА «ШУФЛЯДЫ»

## Узнагароды для «лясных братоў»

Як падала газэта «Навіны» (№ 54, 26.5.1998), прэзыдэнт Літвы Валдас Адамкус нядаўна ўручыў дзяржаўныя ўзнагароды некалькім удзельнікам літоўскага антысавецкага Супраціву 1944-1952 гадоў. Былі адзначаныя 6 удзельнікаў Супраціву, яшчэ 17 падпольшчыкаў і партызанаў узнагароджаныя пасьмяротна. Прэзыдэнт Літвы (сам, дарэчы, у мінулым «лясны брат») падзякаваў літоўскім партызанам — жывым і мёртвым, — за іх гераізм і ахвярнасьць у барацьбе з акупантамі. Гэтай жа тэме было прысьвечанае й адмысловае пасэджаньне Сэйму...

У Літве незалежная дзяржава ўшаноўвае сваіх герояў. Гэта як тэст на «нармальнасьць». Ці можа прэзыдэнт «незалежнай» Беларусі паўтарыць учынак свайго літоўскага калегі?!

А між іншым, можна яму дапамагчы ды скласьці сьпіс меркаваных кандыдатаў на ўзнагароды. З зразумелых прычынаў нельга пакуль называць прозьвішчы тых беларускіх «лясных братоў», якія яшчэ жывуць (а такія ёсьць!).

1. Вітушка Міхал
2. Родзька Усевалад
3. Перагуд Іван
4. Харэўскі Якуб
5. Філістовіч Янка
6. Раманчук Іван
7. Жыхар Аўген
8. Гелда Іван
9. Таўпека Язэп

10... многія чытачы газэты могуць папоўніць гэты далёка ня поўны сьпіс.

Успомнім усіх паймена! Ушануем сваіх герояў!

**Сяргей Ёрш**

# супраць квазібуржуазіі

стане гэтак запатрабавана. Носьбітамі чаго?

Дзьве заўвагі. Ёсьць яшчэ традыцыйна ігнараваная група (5-6% ад насельніцтва) жыхароў Берасьцейшчыны і Піншчыны, якія карыстаюцца ўкраінскай мовай або расейска-ўкраінскім суржыкам — патэнцыйныя кліенты расейскага нацыяналізму і расейскай культуры. Некаторыя сацыёлягі пнуцца даказаць, што белмоўныя ў масе сваёй больш рэакцыйныя за расейскамоўных і ўхваляюць аўтарытарныя вартасьці, Лукашэнку і іншае. Здаецца, аднак жа, гэтыя сацыёлягі проста ня ўмеюць вызначыць, каго лічыць белмоўным і каго — сацыяльна значным. Зрэшты, гэта іх ідэйная аблуда.

Белмоўная меншасьць — усе яе групы — жыве па-ранейшаму ў сацыяльным і культурным прыгоне і, як напісаў Мікола Рабчук, «... незалежнасьць зьмяніла яе становішча не нашмат больш, чым незалежнасьць ЗША — становішча мясцовых нэграў ці індзейцаў». Апошнім часам яна сталася і зусім безабароннай, часам нават д'ябалізаванай.

Між тым белмоўныя ўсё яшчэ ўяўляюць сабой досыць вялікую групу, каб прэтэндаваць на роўнасьць з расейскамоўнымі як у грамадзянскіх, так і ў культурных правах (ужо ня кажучы пра гістарычныя і маральныя падставы для такой роўнасьці, а таксама пра тое, што беларуская культура абслугоўвае значна шырэйшыя групы насельніцтва, чым тыя 10% белмоўных ці нават пару дзясяткаў працэнтаў «дзекаючых» і «цекаючых», і таму дыскрымінацыя белмоўных рыкашэтам б'е й па расейскамоўных беларусах, бо эвалюцыя белкультуры наўпрост залежыць ад лёсу белмовы).

Можна доўга пералічаць, якіх магчымасьцяў беларусафоны пазбаўленыя: атрыманьня на сваёй мове вышэйшай а нават школьнай адукацыі, пазашкольных заняткаў для сваіх дзяцей, магчымасьці карыстацца мовай на вайсковай і дзяржаўнай службе, атрымліваць на ёй элемэнтарны набор інфармацыі і культурнай прадукцыі (глядзець тыя самыя кіна- і тэлефільмы), чуць яе ад расейскамоўных — ад выканкамаўскага чыноўніка да бібліятэкаркі... Гэта ня проста «паражэньне ў правах», гэта прыніжэньне. Усіх гэтых правоў, напрыклад, права на белмоўную вайсковую службу трэ' было б дамагацца — і праз суд, і кулакамі — але ж апошнія гады канчаткова паставілі дыскрымінаваную меншасьць у стан, калі дамагчыся нейкага толку можна адно тэрарызмам або ўхіленьнем (у нашым прыкладзе — пазьбягаючы службы ў войску).

Законна, што белмоўныя ў будучыні, дабіўшыся палітычнай улады, зноў, як на пачатку 90-х, паспрабуюць увесьці «дзяржаўную падтрымку» для белмовы і культуры (тое, што на Захадзе называецца пазытыўнай дыскрымінацыяй ці affirmative actions). Такія захады скіраваныя зусім не на замацаваньне верхнасьці настаўнікаў беларускай мовы над настаўнікамі расейскай (або, у ЗША, нэграў і індзейцаў над белымі), а на аднаўленьне рэальнай роўнасьці раней дыскрымінаваных групаў. Дарэчы, на Захадзе такую «пазытыўную дыскрымінацыю» прыдумалі зусім не нацыяналісты, а очань дажэ лібэралы, і падтрымка такой палітыкі з боку расейскамоўных ёсьць проста праверкай на гуманнасьць. Будзем спадзявацца, што нашы вельмі хітрыя расейскамоўныя інтэлігенцыя і палітыкі, навучаныя горкім досьведам лукашысцкага тупіка, ня будуць тады ў чарговы раз узьнімаць гвалт.

### ІЗНОЎ, ПРАБАЧЦЕ, ПРА ЛУКАШЭНКУ

Найвялікшая памылка лічыць, што Лукашэнку прывялі да ўлады маргіналы, або сяляне, або нізкаадукаваны электарат, або што ён сам такі — самародак і самадзержац. Усё так, але, галоўнае, старая панская вярхушка савецкага грамадзтва, якая трохі не папусьціла ўладу з рук на пачатку 90-х, зноў бліскуча і цьвёрда авалодала сытуацыяй, знайшоўшы масам улюбёнага, харызматычнага правадыра. Лукашэнка — гэта як Напалеон III пасьля рэвалюцыі 1848 году ў Францыі. Панская група, якая навязвае рэшце грамадзтва свае правілы гульні, вартасьці і прынцыпы — гэта сёньня досыць шырокі слой дробнай і сярэдняй квазібуржуазіі: ад завуча школы Зоі Іванаўны да кагэбіста Сяргея Сяргеевіча, ад Станіслава Дамінікавіча, старшыні калгаса, да Рымы Іосіфаўны, загадчыцы крамы, і Ўрала Рамдраковіча, начальніка службы кантролю, — вайсковай і чыноўніцкай, гандлёвай і службісцкай. Гэта клясычная для мадэрнай эпохі пануючая група з размытымі межамі: яна неаднародная і нязамкнутая, адны пакідаюць яе, другія трапляюць. Пра яе можна сказаць, што «яе няма», што гэта сымулякр, што яна нябачная: яна існуе ў форме сыстэмы вартасьцяў і культурных кодаў, тканкі стасункаў. Унутры панскай групы ёсьць і супярэчнасьці, і апазыцыя. Толькі нават калі гэтая апазыцыя зьменіць калгаснага банапарта, як Т'ер зьмяніў Напалеона Малога, гэта нічога ня зьменіць. Белмоўным ня стане лягчэй. Галоўнае ж, у краіне ня будзе ажыцьцёўлена тых неабходных рэформаў, у выніку якіх у будучыні маглі б ствaрыцца эканамічныя і сацыяльныя перадумовы для скіданьня расейскага каляніяльнага ярма, дасягненьня рэальнай незалежнасьці і жорсткай, глыбокай эўрапеізацыі.

Сёньняшні апазыцыянэр-дэмакрат Б. гэтак жа пасядзе на расейскай нафтавай, газавай і транзытнай трубе, як сядзеў учорашні дыктатар А. Сёньняшняя панская група сталася галоўным тормазам разьвіцьця краіны. Квазібуржуазія — самы антыбеларускі слой, пранікненьне ў які заўжды абумоўлівалася дасканалым валоданьнем расейскай мовай і веданьнем апарату расейскае культуры. Гэтая кляса, якая раней верай і праўдай служыла каляніяльным уладам, а цяпер забясьпечвае функцыянаваньне квазідзяржавы, аджыла свой час і мусіць сысьці.

Пытаньне пра мову — гэта пытаньне пра ўладу. Сьцьвердзіўшы сваё права ўсюды ўжываць беларускую мову, белмоўныя сьцьвердзяць права на сваю долю ва ўсім, а калі спатрэбіцца краіне — дык і на пlivаньне.

Квазібуржуазія ёсьць натуральным ворагам белмоўных, а яе ворагі — саюзьнікамі. Змаганьне зь ёй — гэта падрыў і зьнішчэньне яе мяшчанскай сыстэмы вартасьцяў і дэмістыфікацыя культурных кодаў.

Гісторыя паўтараецца: як на пачатку стагодзьдзя сьвядомыя беларусы складаліся зь сялянаў, інтэлігенцыі і нешматлікіх пралетарыяў, так і белмоўныя цяпер. Цяжка паверыць, што квазібуржуазія, якая падхапіла традыцыі зрасейшчанай буржуазіі пачатку стагодзьдзя, раптам «беларусізуецца», і нічога страшнага, што яна не беларусізуецца. Яна так і так ужо аджывае: у любым разе яна, якая ўмее толькі слухацца загадаў праз каляніяльную ці якую іншую «вэртыкалі», няздольная весьці рэй у постіндустрыяльным, супэрінфармацыйным грамадзтве.

Заўважце, аднак, як частка беларускай інтэлігенцыі сёньня загразае ў буржуазных густах: у апошнія гады набралі сілы нэамяшчанскія плыні ў нашай культуры, нарцысічныя, манерныя і сытыя — дастаткова схадзіць на пінігінскі спэктакаль «Арт» або пачытаць, як Алесь Аркуш ходзіць «па Парыжу» ці Дранько-Майсюк Парыжам стамляецца. Заўважце таксама, што беларуская літаратура вельмі рэдка гаварыла ад імя сапраўднага работніка або жабрака, які корпаецца ў сьметніках палацаў на Плошчы Перамогі.

Сучасныя «элітарныя» пісьменьнікі і музыкі, бомонд і бонтон новай беларускай культуры, у сублімаванай форме паўтараюць шлях пакаленьняў беларусаў-беднякоў, зачараваных «сьціплым шармам квазібуржуазіі». Яны ліжуць ганкі, якія трэба трушчыць, і імкнуцца спадабацца тым, каго трэба шакаваць.

### РАСЕЙСКАЯ=МЯШЧАНСКАЯ

Сам выбар беларускай мовы і беларускай культуры — ужо бунт супраць пануючых мяшчанскіх вартасьцяў. Расейская мова сёньня — гэта мяшчанская мова. Першасны, фундамэнтальны бунт можа і мусіць мець лягічны працяг. Картаген нашай мяшчанскай правінцыйнасьці павінен быць разбураны.

«Незалежніцкія» і «дэмакратычныя» прыярытэты расейскамоўных, пра якія трубяць сацыёлягі, часта ёсьць проста выбарам пратэсту і мрояй пра неакрэсьлены горад шчасьця (раней-раней ён называўся камунізмам, цяпер — незалежнасьцю і дэмакратыяй). Здаецца, большасьць зь іх, як бы пачула, што незалежнасьць — гэта калі ня будзе ні ОРТ, ні НТВ, дык і разьвіталася з усімі сваімі прыярытэтамі.

Ня тое зь белмоўнымі.

Наўрад ужо сёньняшняе іх пакаленьне зьдзейсьніць свае мары пра Аркадыю і сканструюе лепшую Беларусь. Гэта будзе пасьля. Наўрад ці так хутка «беларус» ператворыцца з паняцьця этнічнага ў паняцьце этычнае — «працуе як беларус», «шчыры як беларус», «надзейны як беларус». Наўрад ці мы хутка ўзьнясем прынцыпы салідарнасьці белмоўных аж да вынікненьня беларускай мафіі (свой за свайго; каму падабаецца таямнічасьць, няхай назаве яе масонствам). А што сёньняшняе?

Ці не заўважала публіка, што ў наш час рэдкі белмоўны гарадзкі жыхар абыходзіцца безь літаратурнага хобі. Культура, літаратура ў першую чаргу, зноў пачынае кампэнсаваць адсутнасьць дзяржавы, а Беларусь і беларускасьць у чарговы раз — ссыхацца да літаратуры. На жаль, зноў спраўджваецца стары і заганны народніцкі прынцып: «творачы літаратуру, мы творым бацькаўшчыну». (Хоць, кажуць, добрыя творы цяпер могуць зьявіцца толькі на платах, комінах і камэрных сьценах).

Захапленьне белмоўнай брацііі літаратурай азначае, што ўсе мы падсьвядома зразумелі сваё прызначэньне — пранесьці мову, захаваўшы і ўдасканаліўшы. Пачуцьце мовы сёньня — гэта пачуцьце Бога — пачуцьце сябе — пачуцьце сваёй мэты — пачуцьце сэнсу гэтага стагодзьдзя і тысячагодзьдзя.

Мы — носьбіты мовы, а ўсё астатняе — прыкладаецца, калі чалавек досыць разумны, каб стаць багатым. Клопат пра мову ня можа зводзіцца да літтворчасьці. Клопат пра мову — гэта клопат пра сябе. Каб удасканаліць мову, чалавек павінен самаўдасканаліцца, каб узбагаціць — абагаціцца, прычым пажадана і ў прамым сэнсе таксама. Маршрут вядомы: трэба спачатку ў дасканаласьці вывучыць мову, каб пасьля таксама вывучыць сябе, а пасьля — сьвет. Бліскуча авалодаць ёю, а пасьля сабою, каб кіраваць сьветам. Тады спраўдзіцца старая беларуская масонская казка пра Івана, удовінага сына.

**Андрэй Каўчук**

# Шмат гісторыяў

Апошнім часам гістарычныя веды і гістарычныя вобразы зноў сталі ў Беларусі сфэраю пільнай ідэалягічнай увагі. Прыклады зь нядаўняе гісторыі ўвесь час прыводзяцца прадстаўнікамі кіруючага рэжыму; спасылкі на гісторыю пастаянна гучаць з боку апазыцыі. Апалягетыка часам замяняе гістарыяграфію ўвогуле.

Улады актыўна праводзяць палітыку зьнешняй рэсаветызацыі — аднаўляецца савецкая сымболіка, патэрналісцкая рыторыка, інстытуты і формы грамадзкіх паводзінаў савецкага пэрыяду: суботнікі, дружыньнікі, камсамол.... Утвораныя інстытуцыі толькі зьнешне нагадваюць зьявы папярэдняе эпохі, але ўся падобная дзейнасьць адбываецца пад лёзунгамі вяртаньня ў «страчаны рай».

Адначасова праводзіцца жорсткая цэнзурная палітыка — цалкам зьмененае кіраўніцтва выдавецтва «Беларуская Энцыкляпэдыя» і ўжо з падрыхтаваных тамоў «Гістарычнай энцыкляпэдыі Беларусі» вымаюцца цэлыя артыкулы, якія не зусім адпавядаюць ідэалягічным устаноўкам сёньняшняе ўлады; ствараюцца перашкоды выхаду гістарычна-папулярных твораў, створаных незалежнымі ад дзяржавы аўтарамі (прыклад — забарона друку кнігі Ўладзімера Арлова «Адкуль наш род»); некаторыя гістарычныя працы выходзяць у сьвет толькі пасьля таго, як адтуль пад прымусам выкідваюцца цэлыя разьдзелы (прыклад — кніга амэрыканскага прафэсара Яна Запрудніка «Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях»).

Новая генэрацыя Беларусі, якая падрастае, ня мае досьведу таталітарызму, але ўжо сутыкнулася з новым аўтарытарызмам. Гэтая генэрацыя цяпер адчувае на сабе імкненьне да яе ідэалягічнай апрацоўкі. І адначасова, гэтая генэрацыя не заўжды мае ўласныя погляды на гістарычныя і палітычныя падзеі. Такая сытуацыя стварае магчымасьці для маніпуляцыяў над грамадзкаю думкаю з боку розных палітычных сілаў. Дэфіцыт уласнага погляду — вось праблема сучаснай Беларусі.

Таму як адзін з варыянтаў актывізацыі грамадзкае творчасьці мы фармулюем праекты шырокіх конкурсаў для школьнікаў на тэмы блізкае гісторыі. Абуджэньне інтарэсу да дасьледчых прыёмаў будзе спрыяць паступовым зьменам у беларускім грамадзтве ў кірунку ўмацаваньня каштоўнасьці асабістых свабодаў. Пры ўсім тым, нашыя конкурсы - гэта непалітычны праект, а дзейнасьць, скіраваная на ўзьнікненьне грамадзкае самарэфлексіі ў Беларусі.

Распачынаючы гэтак новыя для сябе праекты і формы дзейнасьці мы паслугоўваліся вельмі важнымі працэдурамі мысьленьня — сумневам і даверам, бо мы верым у адказнасьць удзельнікаў праекту і іхнюю здольнасьць зрабіць свой выбар. Тут важнае ўзьнікненьне самой сытуацыі прадумваньня і значыць — выбару. Конкурсы на тэму блізкае гісторыі — гэта сьвядомая адмова ад Мэтагісторыі і прызнаньне таго, што гісторыяў можа быць некалькі. Мы верым у разнастайнасьць нашага грамадзтва, бо рэаліяй ёсьць беларуская гісторыі, да нядаўніх падзеяў якой мы прапануем зьвярнуцца. Таму мы не зьбіраемся навязваць якія-небудзь стэрэатыпы — ня будзем агітаваць супраць савецкага бачаньня гісторыі, ня будзем абмяжоўваць самавыяўленьне нацыянальнымі канцэпцыямі. У пэўным сэнсе наш конкурс — сацыялягічны экспэрымэнт на тэму разуменьня блізкае гісторыі Беларусі.

**Алег Дзярновіч**

# Паўсядзённае

Гэты тэкст ня ёсьць рэцэптам посьпеху. Ён утрымлівае толькі парады, інфармацыю ды перасьцярогі, якія будуць патрэбныя для самастойнай працы дасьледчага характару. Гэты тэкст для тых, хто гатовы займацца гісторыяй досыць нетыповым спосабам.

Гісторыя, да дасьледаваньня якой мы запрашаем — гэта гісторыя блізкага наваколься: сваякоў, вёскі, школы, вуліцы, помніка, групы знаёмых, грамадзкай арганізацыі, незвычайнага (а можа быць, менавіта звычайнага) чалавека з суседзяў... Гэтая гісторыя жыве ў памяці даступных Табе сьведкаў, хаваецца ў дасягальных для Цябе дакумэнтах і фотаздымках. Гэтая гісторыя затрымалася ў мурох дамоў, даступных месцах, а таксама ў мэнтальнасьці, навыках і досьведзе людзей. Сьляды тае гісторыі мы знаходзім і ў сёньняшнім дні. Жыцьцё ў нашых гарадах, мястэчках і вёсках; жыцьцё нашых бацькоў і бацькоў нашых бацькоў, іх стаўленьне да працы, да ўладаў, пабытовыя праблемы і асабістыя посьпехі — вось, што мы назавем паўсядзённым жыцьцём і што стане тэмай нашага Конкурсу.

Для Беларусі пэрыяд 1945-1965 гадоў быў насычаны жорсткімі падзеямі і спадзяваньнямі на лепшае; у гэтым пэрыядзе знайшлося месца для жаданьня свабоды. Час пасьля заканчэньня Другой сусьветнай вайны Беларусь зьмяшчае ў сабе спробы цывільных жыхароў аднавіць мірнае жыцьцё, але таксама сталінізм і нематываваны тэрор. Для Заходняй Беларусі паваенны пэрыяд характарызуецца масавай саветызацыяй і прымусовай калектывізацыяй. Да пачатку 50-х гадоў працягваўся антысавецкі Супраціў, а другая палова 50-х — сярэдзіна 60-х былі адзначаныя палітычнай Адлігай, калі тысячы палітвязьняў вярнуліся з ГУЛАГу. 1965 — гэта год зьмены кіраўніцтва ў БССР, калі замест Кірыла Мазурава 1-м сакратаром ЦК КПБ быў прызначаны Пётар Машэраў. Гады кіраўніцтва апошняга — з 1965 па 1980, зь іх масавай індустрыялізацыяй і канчатковай ліквідацыяй беларускіх школак у горадзе, складаюць асобны пэрыяд у Найноўшай гісторыі Беларусі.

Вось чаму для пачатку нашых конкурсаў для школьнікаў мы абралі асобны і кампактны пэрыяд з 1945 па 1965 гады.

Для нашага конкурсу таксама важна разуменьне таго, што розныя людзі могуць вельмі па-рознаму ўспрымаць гісторыю. У падручніках гістарычныя падзеі найчасьцей падаюцца ў іх “значных” пунктах і “вялікіх” датах. Затое вельмі рэдка можна пабачыць як гісторыя ўплывае на жыцьцё звычайных людзей. Таму мы прапануем удзельнікам Конкурсу самім для сябе адкрыць атмасфэру тых гадоў і паказаць розныя аспэкты тагачаснага жыцьця.

Удзел у Конкурсе патрабуе збору інфармацыі і дакумэнтаў, ацэнкі іх імавернасьці (праўдзівасьці) — таксама праз параўнаньне іх зь іншымі крыніцамі. На падставе гэтых параўнаньняў трэба рабіць самастойныя высновы. Апроч таго, ад удзельнікаў патрабуецца цікавае прадстаўленьне вынікаў сваіх досьледаў.

Запрашаем да прыгодаў у блізкай Гісторыі.

## ПОШУК КРЫНІЦАЎ – ПОШУК ТЭМЫ

Чым бліжэй да нас гісторыя, тым складаней скласьці пра яе неэмацыйнае ўяўленьне. Але ж Ты мусіш зьвярнуцца непасрэдна да крыніцаў, а цікавіць Цябе могуць ня толькі крызысы і пераломы.

Пра гісторыю, да спазнаньня якой мы запрашаем, немагчыма знайсьці штонебудзь у падручніках. А ў нашай гістарыяграфіі практычна няма кніжак на гэты тэмат. Таму, адкрываючы для сябе блізкую гісторыю, Ты мусіш зьвяртацца да арыгінальных крыніцаў.

Памятай: **крыніцай можа быць усё, што ёсьць сьледам дзейнасьці чалавека ў мінулым і што можа служыць для спазнаньня гэтага мінулага**; колькасьць і ўсе віды крыніцаў назваць не магчыма. Крыніцы падаюць інфармацыю непасрэдна альбо гэтак, што яе трэба вычытваць паміж радкамі. Важна не ўпусьціць патрэбныя для цябе крыніцы — дакумэнты, фотаздымкі, дзёньнікі, мэмуары, лісты альбо рэчы штодзённага ўжытку. Але ёсьць яшчэ адзін від крыніцаў, які ты можаш сам ажывіць — гэта чалавечая памяць.

Ты мусіш адрозьніваць крыніцу ад дасьледаваньня, зробленага на яе падставе. Такое дасьледаваньне нясе ў сабе меркаваньні, інтэрпрэтацыі дасьледчыка. **Ты** сам выканаеш **потым** такую працу над крыніцамі.

Надрукаваныя дасьледаваньні — манаграфіі, падручнікі і г.д., — могуць Табе дапамагчы пры падрыхтоўцы, пры фармуляваньні пытаньняў, акрэсьленьня кірунку працы альбо праверцы праўдзівасьці зьвестак. Але гэтыя кніжкі не павінны быць прадметам дасьледаваньня “самі ў сабе”. Няма нічога больш бясплённага, чым проста перапісваньне і злучэньне фактаў, узятых з чужых кніжак.

Не імкніся ахапіць вялікія тэмы ці доўгія гістарычныя пэрыяды. Калі паспрабуеш вывучыць “культурную сытуацыю” ці “гісторыю горада”, то Ты сам прымусіш сябе да перапісваньня. Пэрыпэтыі тэатральнага калектыву ці здарэньне ў тваім горадзе на працягу абранага (няхай кароткага) пэрыяду, паказаныя дзякуючы вялікай колькасьці крыніцаў (напрыклад, праз розныя дакумэнты і ўспаміны) маюць большыя шанцы стаць аўтэнтычным, цікавым адкрыцьцём ды распавесьці нешта важнае пра эпоху.

З другога боку — калі, раптам, Ты знойдзеш асобнага надзвычай цікавага чалавека і прымусіш яго па-просту распавядаць пра 20 гадоў ягонага жыцьця, а Ты потым толькі перанясеш гэтыя ўспаміны з касэты на паперу, то гісторыя, хутчэй за ўсё, не адкрые Табе свайго сапраўднага аблічча.

Распачынай заўжды з дэталяў.

# РЭГЛЯМЭНТ КОНКУРСУ

# 1. Тэма:

“Паўсядзённае жыцьцё ў Беларусі: 1945-1965”.

# 2. Каму адрасуецца:

Конкурс скіраваны да навучэнцаў сярэдніх школаў і іншых сярэдніх навучальных установаў. Узяць удзел у конкурсе могуць вучні, пачынаючы ад 7 клясы (уключна). Важна тое, каб на момант абвяшчэньня Конкурсу ягоны ўдзельнік быў школьнікам.

# 3. Тэрмін:

1. Конкурс абвешчаны ў пачатку мая 1998 году. Адсутнасьць папярэдняга інфармаваньня (да 15 лістапада 1998) не пазбаўляе магчымасьці ўдзелу ў конкурсе.
2. Працы павінны быць дасланыя да 15 лістапада 1998 (вызначаюцца паводле даты на паштовым штэмпэлі) на адрас: а/с 71 Менск 220123 (Конкурс).
3. 15 сьнежня 1998 будуць абвешчаныя вынікі конкурсу.

# 4. Прынцыпы падрыхтоўкі конкурснай працы:

1. Конкурсная праца можа быць падрыхтаваная вучнямі індывідуальна альбо групай, пад апекай альбо самастойна.
2. Апекуном працы можа быць нехта з бацькоў, настаўнік, бібліятэкар... — чалавек, зацікаўлены ў дапамозе ўдзельніку Конкурсу. Апякун можа дапамагаць у пошуку тэмы працы, крыніцаў, формы працы, але ня можа сам выконваць гэтую працу замест удзельніка Конкурсу.
3. Праца павінна мець творчы характар — яна ня можа быць проста капіяваньнем альбо кампіляцыяй ужо вядомых крыніцаў і дасьледаваньняў.
4. Конкурсная праца павінна мець тытул (назву).
5. Праца падаецца на беларускай мове — правапіс можа быць як “тарашкевіцай”, так і “наркомаўкай” (прынятая ў школах норма). Тэксты крыніцаў (дакумэнтаў, успамінаў) могуць перадавацца ў арыгінале. Калі робіцца іх пераклад, то гэта трэба зазначыць асобна.
6. Конкурсная праца можа выглядаць як:
a) апрацаваньне сабраных гістарычных крыніцаў ці сьведчаньняў з камэнтарамі да іх;
b) уласны дасьледчы тэкст з далучэньнем да яго гістарычных крыніцаў (крыніцы).
7. Форма конкурснай працы можа быць адвольнаю. У выпадку нятэкставых формаў (напрыклад — аўдыё, відэа, фотаздымкі) да працы павінна быць далучаная пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс дасьледаваньня і збору інфармацыі, альбо камэнтар да гістарычнай крыніцы.
8. Конкурсную працу трэба даслаць у адным асобніку.
9. Да працы павінна быць далучаная *Мэтрычка*, фармуляр якой вызначаны Радай Конкурсу.

# 5. Узнагароды:

1. Журы ўзнагароджвае ўдзельнікаў Конкурсу* — асобных вучняў альбо калектывы вучняў.
2. Журы можа адзначыць спэцыяльнымі ўзнагародамі апекуноў конкурсных працаў ці рэгіянальных каардынатараў Конкурсу.
3. Рашэньне Журы адносна разьмеркаваньня, памераў і формы ўзнагароджаньня не падлягае зьменам.

# 6. Прызначэньне конкурсных працаў:

Дасланыя працы будуць каталягізаваныя і заархіваваныя ў Архіве Найноўшае Гісторыі, дзе створаць асобны фонд. Конкурсныя працы ня будуць вяртацца аўтарам. Прадугледжваецца публікацыя найбольш цікавых працаў. Да абвяшчэньня вынікаў Конкурсу працы ці іх фрагмэнты ня могуць публікавацца. Права на першапублікацыю працаў, якія атрымалі на конкурсе ўзнагароды, мае Архіў Найноўшае Гісторыі.

* Галоўным прызам будзе мультымэдыйны кампутар, іншыя прызы ўдзельнікам Конкурсу — дыктафоны і фотаапараты. Усім актыўным удзельнікам Конкурсу будуць уручаныя камплекты гістарычнай літаратуры й падпіска на «Нашу Ніву».

Арганізатары конкурсу:
Архіў Найноўшае Гісторыі (створаны Беларускім Гуманітарным Фондам “Наша Ніва”)
пры ўдзеле Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны
пры падтрымцы Фундацыі Стэфана Баторага
пры мэтадычнай дапамозе Цэнтру KARTA (Варшава)

Рада і Журы конкурсу:
Уладзімер Арлоў (літаратар)
Вацлаў Арэшка (гісторык культуры, Беларускі Гуманітарны Фонд “Наша Ніва”)
Ігар Бабкоў (філёзаф, “Эўрафорум”)
Алег Дзярновіч (гісторык, “Наша Ніва”) — старшыня Рады
Сяргей Дубавец (літаратурны крытык, “Наша Ніва”)
Віталь Скалабан (гісторык)
Ніна Стужынская (гісторык)
Алег Трусаў (гісторык, Таварыства Беларускай Мовы)
Сяргей Харэўскі (мастацтвазнаўца, “Наша Ніва”)
Міхась Чарняўскі (гісторык і археоляг)
Ірына Коваль — сакратар Конкурсу

БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ

# Жыцьцё ў Беларусі 1945-1965

## *Конкурс для школьнікаў*

Пашукай нешта тое, што Цябе зацікавіць: у размове зь людзьмі на тэму тых часоў (пытайся пра канкрэтныя моманты, постаці, погляды), у хатнім ці іншым даступным архіве, у альбоме з фотаздымкамі. Натхніць можа артыкул у газэце, плякат, афіша, шыльда крамы, можа быць кадар са старой кінакронікі альбо здарэньне, запісанае ў лісьце ці дзёньніку. Сьлед гісторыі можна знайсьці паўсюль. Трэба ўмець заўважыць у паўсядзённасьці тое, што ня ёсьць відавочным, але адначасова характэрным для свайго часу — хоць зь сёньняшняга пункту гледжаньня яно нават абсурднае ці неімавернае. Набыцьцё тэмы можа стаць добрым пачаткам.

Потым пытайся, шукай, сумнявайся — вяртайся, зноў пытайся, спраўджай. Не спыняйся на адной крыніцы, нават аўтэнтычнай, дзякуючы якой ты можаш раскрыць толькі адзін аспэкт рэчаіснасьці. Альбо наадварот, Ты можаш давесьці, што гэтая крыніца няпраўдзівая і ёсьць фальшывым сьледам — гэтаксама, як аўтэнтычны акт прысуду не абавязкова павінны быць пералічэньнем сапраўднай віны асуджанага, але можа стаць сьведчаньнем несправядлівасьці суда.

Усё гэта ня ёсьць такім простым, вымагае цярплівасьці і высілкаў. І... можа не атрымацца. Але варта паспрабаваць.

### ЛЮДЗІ

На ўсіх этапах дасьледчай працы найважнейшаю для Цябе крыніцаю могуць быць перадусім людзі — жывыя сьведкі мінулых падзеяў. Яны могуць распавесьці цікавыя гісторыі, удакладніць, хто адлюстраваны на фотаздымку, зазначыць значнасьць дакумэнту — адкрыць пасьлядоўнасьць падзеяў калі не ў дэталях, то напэўна перадаць атмасфэру таго часу.

Варта спрабаваць размаўляць зь людзямі, распытваць іх, дазнавацца. Можа стацца, што нехта са сваякоў, сусед, "звычайны" знаёмы мае сваю ўласную гісторыю, быў сьведкам ці ўдзельнікам цікавай падзеі, зьдзейсьніў важны жыцьцёвы выбар.

Ёсьць людзі-апавядальнікі, якія гатовыя ад першага пытаньня распавесьці пра цэлае жыцьцё; ёсьць такія, якія будуць маўчаць, пакуль не патрапіш на найважнейшы для іх тэмат. Але ёсьць і такія, якія нават пры цярплівым распытваньні "цэдзяць" сваю гісторыю, альбо ніколі яе не распавядаюць: ня хочуць, ня ўмеюць, баяцца.

Кожны сьведка патрабуе свойго спосабу размовы, таму ўсе атрыманыя ўспаміны варта адпаведным чынам для іх апрацоўваць, але ўсе ўспаміны патрабуюць спраўджэньня, праверкі — калі Ты хочаш каб рэчаіснасьць, прачыненая Табою, была б праўдзівай, выразнай, цікавай.

Тое, што сьведка ёсьць цікавай (а тым больш, вядомай) постацю, ахвотна і маляўніча распавядае — мала для посьпеху. Ніводны ўспамін ня можа быць вольным ад суб'ектывізму, ніводны ўспамін нельга прымаць на веру некрытычна.

Важна тое, якое дачыненьне аўтар успамінаў меў да падзеяў. Па-рознаму ўбачаць падзею сьведка, ахвяра ці "ахоўнік парадку". Памяць ненадзейная. Часта выштурхоўваецца зь яе тое, што было кепскім, непрыемным. Часта наадварот — тое, што рабіла балюча, прымушала да цярплівасьці, запамінаецца назаўжды, а ў аповядах нават перабольшваецца.

З пэрспэктывы часу інакш ацэньваюцца людзі, іхныя паводзіны, матывацыі, мэты — іншы раз дзеля таго, каб пацьвердзіць слушнасьць (альбо не) іхнага выбару, калі-нікалі таму, што толькі пазьней сталі зразумелымі іхныя намеры, а бывае і такое, што час дазваляе дараваць іхныя ўчынкі.

Часам праз гады чалавек ня проста ўзгадвае, але і кампілюе свае "новыя ўспаміны" — з таго, што сапраўды здарылася з аўтарам успамінаў, з таго, што здарылася зь іншымі людзьмі, а таксама з таго, што было пачутае ці прачытанае. Бывае, успаміны базуюцца нават на плётцы ці пагалосцы, якія таксама могуць быць крыніцаю ведаў пра людзей і іх час. Гэта ўсё яшчэ бывае прапушчанае праз фільтар уяўленьня — як тое "павінна было быць", праз фільтар уласных ацэнак і досьведу пазьнейшых часоў. Можа здарыцца, што Ты сутыкнесься таксама са спробаю "абароны біяграфіі", калі апавядальнік будзе адстойваць сэнс свайго жыцьця, уласны выбар, мэты і ідэалы, якім служыў.

Трэба ўмець аддзяляць факты канкрэтнай біяграфіі ад агульнай ніці гісторыі.

Варта пытацца пра іншых людзей, пра зносіны зь імі, пра іншых сьведкаў ці ўдзельнікаў здарэньняў — можа быць удасца іх знайсьці, спраўдзіць, як яны бачаць той час, пачуць розныя меркаваньні пра тыя падзеі. Нават у тым выпадку, калі няма відавочнай розьніцы інтарэсаў, а гэтым самым і розьніцы ў ацэнцы падзеяў, расповяды могуць значна адрозьнівацца.

Неабходна шукаць розныя спосабы праверкі інфармацыі, зьвяртацца да разнастайных відаў крыніцаў.

### ПАПЕРЫ

Эпоха, якую Ты будзеш дасьледаваць, спарадзіла шмат папераў.

Павелічэньне колькасьці дзяржаўных установаў і бюракратызацыя дзяржавы (плянаваньне, справаздачнасьць і кантроль на ўсіх ступенях) давалі ў выніку тоны дакумэнтаў. Кожная арганізацыя — школа, фабрыка, калгас, музэй, тэатар..., — павінны мець свой архіў, які зьяўляецца неацэнным сховішчам ведаў пра саму арганізацыю, пра яе людзей, пра яе зносіны з вонкавым сьветам.

Спрабуючы ўплываць на спосаб мысьленьня і дзейнасьць чалавека, "выхоўваць" яго, савецкая ўлада бамбардавала жыхара Беларусі штодня незьлічонай колькасьцю пісьмовых загадаў, забаронаў, аб'яваў, цыркуляраў, плякатаў, лёзунгаў... Асобы від крыніцаў — тагачасныя газэты.

Малая даступнасьць у тыя часы тэлефонаў спрыяла ліставаньню праз пошту. А дзейнасьць цэнзуры спрыяла пісаньню "ў шуфляду" ўспамінаў ці дзёньнікаў.

Усё тое, што было **напісанае**, можа быць для Цябе крыніцай інфармацыі.

Багатымі крыніцамі ведаў пра эпоху могуць быць дакумэнты, якія ўзьніклі ў выніку дачыненьняў "грамадзянін-дзяржава": пасьведчаньні, даведкі, дыплёмы, просьбы, заявы, звароты, прысуды, пэрсанальныя анкеты, скаргі... Такімі дакумэнтамі эпохі ёсьць паперы з працы, а нават рахункі ці запісы сямейнага бюджэту. Трэба спрабаваць праз гэтыя дакумэнты асьвятліць фрагмэнты жыцьця.

Можа пашанцуе і, дакрануўшыся да гэтых завалаў папераў, Ты патрапіш на выключны дакумэнт альбо на сьлед незвычайнай падзеі. Але праца з дакумэнтамі не заўжды абяцае посьпех. Таму трэба ад пачатку абраць які-небудзь кірунак і шукаць мэтадычна.

Гэта можа быць спроба рэканструкцыі нейкай справы, спрэчкі, пратэсту. Запісаныя ў паперах пэрыпэтыі ў межах якой-небудзь установы могуць раскрыць мэханізм функцыянаваньня ўлады. Можа быць, Твая ўвага скіруецца на цікавага чалавека, які дараспавядзе "рэшту".

Незвычайную ролю ў спазнаньні мінуўшчыны могуць адыграць разнастайныя асабістыя запісы — найперш, дзёньнікі (асабліва тыя, якія пісаліся штодня), успаміны, прыватныя лісты. Хоць і гэтыя крыніцы маюць пэўную абмежаванасьць, пра што ўжо распавядалася ў папярэднім разьдзеле, і не павінны быць адзінай крыніцай ведаў пра рэчаіснасьць.

Трэба праверыць, ці маеш Ты доступ да арыгіналу, ці да Цябе патрапіла толькі копія альбо перапісаны тэкст. А пры перапісваньні тэкст можа быць "папраўлены" самім аўтарам, які стаў "мудрэйшым", дзякуючы пазьнейшаму досьведу.

Важнымі ёсьць многія аспэкты, якія датычаць акалічнасьцяў, умоваў, повадаў і прычынаў паўстаньня тэксту. Ці фіксацыя на паперы адбывалася адначасова з падзеямі, ці была пазьнейшай — гэта зьмяняе ацэнку тэкстаў і стаўленьне да іх, зьмяняе іх герархію, уплывае на сэлекцыю. Зь якімі канкрэтнымі мэтамі ствараўся гэты тэкст — ці пісаўся ён дзеля публікацыі, ці ў пошуках нечыяй прыхільнасьці? Ці мог аўтар тэксту нечага баяцца, ад некага хаваў свае запісы — ад сваякоў, ад начальства, ад міліцыі, ад карных органаў... Наколькі гэтыя запісы ёсьць адбіткам рэчаіснасьці, а наколькі — асабістасьці аўтара. Некаторыя могуць прыпісваць сабе ўчынкі, якія не зьдзяйсьнялі, распавядаць пра месцы, у якіх не маглі быць, цытаваць пачутае меркаваньне як сваё.

Як і любая іншая крыніца, асабістыя запісы павінны быць разгледжаныя крытычна. Інакш кажучы, трэба правесьці іх аналіз — ацаніць праўдзівасьць.

### ВОБРАЗЫ

Усё XX стагодзьдзе — гэта час рэвалюцыйных зьменаў у тэхніцы захоўваньня і перадачы інфармацыі. У пэрыяд, які Ты будзеш дасьледаваць, фатаграфія робіцца надзвычай папулярным, пашыраным спосабам фіксацыі рэчаіснасьці — і афіцыйнай, і прыватнай.

У пэрыяд, які будзем аналізаваць, выраб і пашырэньне афіцыйных фільмаў і фота ў большай ці меншай ступені мелі на мэце **прапагандысцкую функцыю** — гэта значыць, што яны мусілі паказваць рэчаіснасьць згодна з тым, як яны павінны былі выглядаць на меркаваньне ўладаў. Варта памятаць, што кінафільм, нават калі ён называецца дакумэнтальным (кінакроніка ці рэпартаж зь месца падзеяў) заўжды ёсьць **пераўвасабленьнем рэчаіснасьці**, гэта значыць канструкцыяй, выкананай аўтарам фільму праз адбор вобразаў, сюжэтаў, герояў, праз мантаж кадраў, праз камэнтар.

На стражы пажаданага для ўладаў вобразу рэчаіснасьці стаяла цэнзура. Але яе панаваньне ў прыватнай сфэры, у адрозьненьне ад сфэры публічнай, было досыць абмежаваным. Цэнзура не магла цалкам уплываць на прыватныя фотаальбомы, якія робяцца вельмі папулярнымі ў Беларусі ў 60-я гады. Сярод сюжэтаў, якія часта паўтараюцца — здымкаў зь сямейных урачыстасьцяў, з вандровак ці вакацыяў, — можна патрапіць на такія, якія паказваюць які-небудзь цікавы момант, напрыклад, дачыненьняў "грамадзянін-улада".

Пытайся, хто ёсьць на фотаздымку, дзе, кім, пры якіх абставінах быў зроблены здымак. Ад Цябе, ад Тваёй дапытлівасьці залежыць, ці ажывуць вобразы, ці даведаесься, што было перад тым і што сталася потым — у якой пасьлядоўнасьці падзеі ўвекавечаныя ў тыя хвіліны на здымку.

Ты маеш ня шмат шанцаў натрапіць на нецэнзураваныя матэрыялы, яшчэ меней — на тое, што цэнзура "зьела". Уважлівы разгляд розных "вобразаў", таксама створаных афіцыйна, можа адкрыць тое, што не зьбіраўся перадаваць фатограф (і на што магла не зьвярнуць увагу цэнзура) і што зьяўляецца праўдзівым настроем ці пачуцьцямі людзей таго часу.

Параўнаньне вобразаў рэчаіснасьці, "прычасаных" (таксама і ў прыватнай фатаграфіі) і бяз рэтушы, супастаўленьне гэтых вобразаў зь іншымі крыніцамі, можа прынесьці нечаканыя вынікі ў спазнаньні праўды. Паступова Ты зразумееш яе насуперак тагачасным прапагандыстам.

Бачаньне гісторыі могуць даць таксама іншыя захаваныя вобразы рэчаіснасьці: малюнкі (таксама карыкатуры), графіці, скульптура, прадметы штодзённага ўжытку, а таксама помнікі, архітэктура, асяродзьдзе чалавека...

Ня толькі тое, што ўспрымаецца непасрэдна, але таксама ўмовы, мэты і акалічнасьці зьяўленьня нейкай крыніцы, роля, якую яны выконвалі, рашэньні, зьвязаныя зь імі, стаўленьне да іх людзей, і г.д. — для дапытлівага дасьледчыка могуць стаць шанцам адкрыцьця цікавага сьледу мінуўшчыны.

*Архіў Найноўшае Гісторыі, травень 1998*

## МЭТРЫЧКА ПРАЦЫ *(можа быць скапіраванаю ці перапісанаю ад рукі - у фармаце А4; калі ня хопіць месца, пішыце на адвароце)*

| Назва працы | Месца для нумару (праастаўляецца сакратаром Конкурсу) |
|---|---|
| Форма працы, яе аб'ём і складовыя часткі (напрыклад, колькасьць частак, колькасьць старонак машынапісу, машынапіс + касэта відэа, аўдые, колькасьць касэтаў; альбом фотаздымкаў, колькасьць здымкаў) | |
| Імя і прозьвішча аўтара (аўтараў) працы (падкрэсьліць імя асобы, якая рэпрэзэнтуе ўсю групу) | |
| Дакладны адрас аўтара (аўтараў) | |
| Тэлефон аўтара (аўтараў) з тэлефонным кодам мясцовасьці | |
| Адрас, нумар і назва школы ці вучэльні, у якіх займаюцца аўтары | |
| Узрост аўтара (аўтараў) і кляса, у якой ён (яна, яны) займаецца (займаюцца) | |
| Імя і прозьвішча апекуна працы | |
| Адносіны апекуна працы да аўтара (аўтараў) - настаўнік, маці ці бацька, іншае | |
| Кантакт (адрас, тэлефон) з апекуном працы | |
| У чым заключалася апека | |

# Вось сымбаль твой...



*Анатоль Цітоў. Геральдыка беларускіх местаў / Мастак А.Бажэнаў. — Менск: Полымя, 1998.*

Падмурак беларускай гісторыі памацнеў: зьявіўся новы варыянт кнігі Анатоля Цітова пра беларускія гарадзкія гербы. Прыемна ўзяць у рукі гэтае выданьне, падзівіцца на шматлікія, па-майстэрску зробленыя выявы гербаў на глянцавай паперы, перагартаць і перачытаць не адзін раз... Калі папярэдняя манаграфія аўтара (1989 году) зьмяшчала гербы 73-х гарадоў, то цяперашняя — 146-ці. Мусіць, аўтар наўмысна зрабіў падвышку роўна ў два разы. Такое памнажэньне беларускіх гарадоў з гербамі тлумачыцца тым, што А.Цітоў абраў этнаграфічны падыход да вызначэньня «беларускі»: калі раней такім загадвалі лічыць тое, што ляжала ў межах БССР, то цяпер магчыма называць беларускім менавіта беларускае. Зьмешчаныя ў кнізе аўтарытэтныя мапы паказваюць сапраўдныя межы нашай геральдыкі ад Бранска і Дарагабужа на ўсходзе да Бранска і Ломжы на захадзе, ад Себежа на поўначы да Славатычаў і Гародні (Гарадной) на поўдні. Таму падставай — зьвесткі лінгвіста Я.Карскага, гісторыка М.Доўнара-Запольскага і эканаміста Я.Канчара. Па-за межамі ўласна беларускай тэрыторыі апынуліся старажытныя гарады з гербамі Воін, Ламазы, Астраленка, Новы Груд, Кольна, Сувалкі, Сейны і іншыя, але А.Цітоў і іх уключыў у кнігу. З усіх «новых» набыткаў беларускай геральдыкі сапраўдным дыямэнтам ёсьць старажытная Вільня, але дзеля справядлівасьці трэба адзначыць, што яе герб уважаўся за беларускі і раней, прыкладам, складальнікамі энцыкляпэдыі «Беларусь» (1995 год).

Значна пашыраныя агульнатэарэтычныя разьдзелы кнігі, зьявіліся і зусім новыя матэрыялы (пра геральдыку рамесных цэхаў у гарадах). Аднак шмат засталося і таго даўняга «матэрыялу», ад якога было б варта адмовіцца. Ці ня дзіва, што амаль кожны разьдзел кнігі пачынаецца з цытатаў Маркса і Энгельса? «Клясычнае вызначэньне (мяшчанскай грамады пры фэадалізме) дадзена Ф.Энгельсам», — лічыць аўтар. У навуцы дастаткова сапраўды клясычных дасьледаваньняў пра фэадалізм, і пра гэтую тэму таксама. А вось каб спазнаць, што клясы і саслоўі — гэта не адно й тое ж, сапраўды можна было абмежавацца прачытаньнем згаданых «клясыкаў». Арыгінальны і, асьмелімся сказаць, не марксісцкі падыход у аўтара да складанай праблемы — чым адрозьніваліся гарады (месты) ад мястэчак. А.Цітоў мяркуе, што наяўнасьцю ў першых і адсутнасьцю ў другіх прывілею на магдэбурскае права. Вось адсюль і тлумачэньне назвы кнігі — яна прысьвечаная менавіта местам (гарадам), бо некаторыя могуць зьдзівіцца: а куды дзеліся мястэчкі зь іх гербамі. Для аўтара і яны — гарады.

Нягледзячы на салідныя дадаткі, у кнізе пастаянна адчуваецца брак агульнага разьдзелу пра геральдыку, правілы складаньня гербаў, левы і правы бок у гербах і г.д. Аўтар дае такія зьвесткі ашчадна, патроху і на розных старонках, так што недасьведчанаму чытачу будзе ў нейкай ступені нязручна скласьці з гэтых бліскучых мазаічных кубікаў цэласную карціну геральдыкі як мастацтва складаньня гербаў. Гэтае мастацтва прайшло такі складаны шлях і, дарэчы, жыве і зараз, бо ёсьць патрэба складаць гербы для нашых новых гарадоў. Чамусьці аўтар вырашыў адмежавацца ад сучаснасьці і даводзіць выкладаньне толькі да першых дзесяцігодзьдзяў XX ст. А.Цітоў прапануе вылучаць два этапы: дагеральдычны (сымбалі Навагрудка і Віцебска) і геральдычны (усе астатнія з 146 гербаў). Дадатак пазагеральдычага этапу (герабавая творчасьць у БССР) паказаў бы сёньняшнім мастакам, што ня трэба выдумляць ужо прыдуманае і выдаваць сваю прадукцыю за геральдычнае мастацтва. Самы яскравы прыклад такой дзейнасьці — старажытны гербавы алень Гародні з чырвонай зоркай замест крыжа паміж рогамі. Жывёліна нечым нагадвае герояў вядомага рамана Вайновіча.

Скарыстаўшы апошні прыклад, пяройдзем да разгляду канкрэтных гербаў. Гарадзенскі алень з падачы аднаго польскага дасьледчыка атрымаў мянушку «алень сьв. Губэрта». Быў у VIII стагодзьдзі такі біскуп Льежа. Пра яго распавядалі, што той, будучы паганцам у маладосьці, вельмі любіў паляваць. Аднаго разу перад ім зьявіўся цудоўны алень з крыжам паміж рогамі — знак Божага заклiку. І Губэрт прыняў веру Хрыстову, стаў манахам. Беларускія дасьледчыкі яшчэ не зьвярнулі ўвагі на тое, што такую самую гісторыю расказвалі шмат вякоў раней пра бізантыйскага сьвятога Яўстафія Плакіду. Пра апошняга на Русі ведалі яшчэ ў XI ст. Каб пра яго ведалі яшчэ і ў XX ст. ідэалягічныя цэнзары, то, пэўна, не замянілі б крыж на зорку, бо «праваслаўны» герб быў бы ў нечым «прымальным», прынамсі, як дэкарацыя.

У кнізе прыведзеныя новыя цікавыя падрабязнасьці пра герб Шклова. У папярэднім варыянце кнігі А.Цітоў далучаўся да дасьледчыкаў мінулага стагодзьдзя, што герб горада з выяваю бязьмену сымбалізаваў гандаль. Цяпер высунута новае тлумачэньне, дзякуючы лацінскаму надпісу «юстыцыя» на гарадзкой пячатцы: бязьмен — гэта своеасаблівы сымбаль справядлівасьці. Тут нейкая старажытная блытаніна. Справядлівасьць, роўнасьць перад законам у Старажытным Рыме ўвасабляла багіня Эквітас, якую ў пазьнейшай Эўропе часта малявалі з шалямі ў руках. Бязьмен на такі сымбаль ну зусім не прыдатны, нават у руках і Юстыцыі. Магчыма, асэнсаваньне бязьмену як сымбалю Юстыцыі — зьява пазьнейшая.

Выкажам уласнае разуменьне словаў з апісаньня мсьціслаўскага гербу. У прывілеях ён апісаны як «меч з шчытом наверх». Паводле А.Цітова, на самой справе на рэальных пячатках маецца выява рукі, узброенай мячом, што высунулася з-за шчыта. З прыведзеных выяваў бачна, што тая рука высунулася з воблака, меч скіраваны ўгару. А што датычыць шчыта — то ў прывілеях так, пэўна, названая гарда — перакрыжаваньне мяча.

Аўтар часьцяком выкарыстоўвае ў тэксьце старасьвецкія тэрміны і выразы, якія, здавалася, ужо зьніклі з нашай мовы, сьмела ідзе на моўныя экспэрымэнты. Дзякуючы А.Цітову шмат якія словы атрымаюць сваё другое жыцьцё. Але гэта не пра тэрмін «полецаі» у сэнсе «паліцыя», які нібыта сустракаецца ў старажытным прывілеі вялікага князя. Той пісаў: «Полецаем теж войту и бурмистром и радцом вси месцы пустыя, в месте и около места, к осаженью и размноженью людей», што па-сучаснаму будзе: «Аддаем таксама войту і бурмістрам і радцам усе мясьціны пустыя...» Скрозь у кнізе трапляецца скарачэньне «ВкЛ», бо, маўляў, пішацца «Вялікае княства Літоўскае». Аднак тое напісаньне — «княства» праз малое «к» — старая маскоўская традыцыя, якая супярэчыць даўнім беларускім дакумэнтам, таксама адноўленай традыцыі напісаньня ВКЛ.

Пры ўсіх вартасьцях новая праца А.Цітова мае істотны грэх — там ня згадваюцца навуковыя апанэнты аўтара і іх погляды на некаторыя пытаньні генэалёгіі (погляды слушныя), ня згадваюцца іх працы. Дарма. Гэтай кнігай А.Цітоў даказаў, што ён па-ранейшаму — цэнтральная постаць ў беларускай геральдыцы і не яму баяцца крытыкі.

**Валеры Пазьнякоў**

## КНІГА-ПОШТАЙ

Каб замовіць патрэбную Вам кнігу, неабходна пазначаную суму праз пошту пералічыць на наступны рахунак: БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г.Менска, код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» ўказаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсьць, тэлефон.

Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч.

| № Аўтар і назва | Кошт | Кошт перасылкі |
|---|---|---|
| 1. Васіль Быкаў. Сьцяна | 130.000 | 20.000 |
| 2. Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (1945-1947) | 80.000 | 16.000 |
| 3. Аляксандар Лукашук. «За кіпучай чэкісцай работай...»: Сцэны з жыцьця катаў | 50.000 | 12.000 |
| 4. Аляксандар Лукашук. Філістовіч. Вяртаньне нацыяналіста | 28.000 | 12.000 |
| 5. Канвэер сьмерці: Дакумэнты, сьведчаньні, успаміны | 250.000 | 20.000 |
| 6. Каралеўства Беларусь: Посткаляніяльная культура | 150.000 | 15.000 |
| 7. Адам Глёбус. Толькі не гавары маёй маме... | 30.000 | 16.000 |
| 8. Адам Глёбус. Койданава | 45.000 | 10 000 |
| 9. Ж.-Б. Дзюрасэль. Эўропа з 1815 году да нашых дзён | 15.000 | 16.000 |
| 10.Б.Фэйган. Уводзіны ў археалёгію | 12.000 | 12.000 |
| Выданьні «ЭўроФоруму» | | |
| 1. Энтані Сьміт. нацыяналізм у XX стагодзьдзі | 30.000 | 12.000 |
| 2. Ш.Дэбаш, Ж.-М. Пант'е. Уводзіны ў палітыку | 48.000 | 20.000 |
| 3. Еран Тэрборн. Эўропа сёньня і заўтра | 48.000 | 20.000 |
| 4. П.Брунэль. Што такое параўнаўчае літаратуразнаўства | 36.000 | 12.000 |
| 5. Фрагмэнты. № 1 | 36.000 | 12.000 |
| 6. Фрагмэнты. № 2 | 60.000 | 20.000 |
| 7. Фрагмэнты. № 4 | 60.000 | 18.000 |

## НОВЫЯ КНІГІ І ПЭРЫЁДЫКІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Баравікова Р. Сад на капялюшыку каханай: Лірыка. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 486 с., іл., партр. — («Залатая сэрыя». Паэзія XX ст.) — Наклад 2.700 ас. ISBN 985-02-0364-1

Дранько-Майсюк Л. Гаспода: Выбранае. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 382 с. — («Залатая сэрыя». Паэзія XX ст.). — Наклад 4.000 ас. ISBN 985-02-0401-X

Заклятае возера: Беларускія народныя гераічныя і фантастычныя казкі. / Апрац. А.Якімовіча. Маст. М.Селяшчук. — Менск: Юнацтва, 1998. — 224 с., іл. — Наклад 6.000 ас. ISBN 5-7880-0844-1

Згукі Бацькаўшчыны: Зборнік. Для малодшага і сярэдняга школьнага веку. / Уклад. У.Казьбярук, Я.Янушкевіч; Маст. В.Мікіта. — Менск: Юнацтва, 1998. — 269 с., каляр. іл. — Наклад 5.000 ас. ISBN 985-05-0111-1

Корчак Я. Кароль Мацюсь Першы. Кароль Мацюсь на бязьлюдным востраве: Аповесьці-казкі. Для малодшага школьнага веку. / Маст. В.Сідарава. — Менск: Юнацтва, 1998. — 462 с., іл. — (Бібліятэка замежнай дзіцячай літаратуры) — Наклад 4.000 ас. ISBN 5-7880-0769-0

Крук І. Сьледам за сонцам: Беларускі народны каляндар. Дапаможнік для пэдагогаў дзіцячых дашкольных установаў. — Менск: Ураджай, 1998. — 216 с. — Наклад 6.800 ас. ISBN 985-04-0135-4

Ліцьвінка В. Сьвяты і абрады беларусаў. — 2-е выд. — Менск: Беларусь, 1998. — 190 с., іл. — Наклад 7.000 ас. ISBN 985-01-0055-9

Марзалюк І. Магілёў у XII-XVIII ст. Людзі і рэчы. / Навук. рэд. Я.Рыер. — Магілёў: Веды, 1998. — 260 с., іл., пы ўдзеле МТ «Брама». — Наклад 1.000 ас. ISBN 985-6390-64-8

Міхно У. Азартныя гульні: Аповесьць. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 167 с. — (Першая кніга празаіка) — Наклад 2.500 ас. ISBN 985-02-0345-5

Пралеска: Чытанка для дзяцей-дашкольнікаў. / Уклад. і ўступ. арт. А.Сачанкі; Мастак М.Рыжы. — Менск: Юнацтва, 1998. — 318 с., каляр. іл. — Наклад 6.000 ас. ISBN 985-05-0043-3

Саламаха У. Апазнаецца асоба мужчыны: Аповесьці. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 382 с. — Наклад 1.000 ас. ISBN 985-02-0217-3

Сьвірыдаў С. Крык душы: Аповесьці, апавяданьне. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 286 с. — Наклад 700 ас. ISBN 985-02-0451-6

Танк М. Журавель і чапля: Казкі. Менск: Юнацтва, 1998. — 48 с. — Наклад 6.000 ас. ISBN 985-05-0164-2

Хатынь: Альбом. / Тэкст і фота Я.Казюлі. — Менск: Беларусь, 1998. — Наклад 5.000 ас. ISBN 985-01-0159-8

## КАСЭТЫ-ПОШТАЙ

На складзе БГФ «Наша Ніва» ёсьць касэты (кошт 45.000 + 7.000 БРБ)

1. Народны альбом: Супольны музычны праект (1997)
2. Палац. Дарожка (1997)
3. NRM. Made in NRM. Песьні з альбомаў 1995-1996
4. Новае Неба. Мая краіна (1996)
5. Крама. Хворы на рок-н-рол (1993)
6. Данчык. Беларусачка і іншыя песьні (1974/1998)
7. Мясцовы час. Падвойны альбом (1998): Слота (1989), Мой дом (1990)
8. Zygimont VAZA. Стан Галюцынацыі
9. Андрэй Мельнікаў. Гэта мы! (1996)
10. Камэлот. У краіне талераў (1995)
11. Віктар Шалкевіч. Смутны беларускі блюз (1996)
12. Made in Belarus (1997)

Зьвяртацца можна праз пошту: 220085 Менск, а/с 5, Віталь Супрановіч.

Каб замовіць патрэбную Вам касэту, неабходна 45.000 рублёў + 7.000 праз пошту пералічыць на наступны рахунак:

БГФ «Наша Ніва» р/р 3015201930039 «Гарант» філія АКБ «Поіск» г. Менска, код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамленьня» ўказаць назву касэты, Ваш дакладны паштовы адрас і тэлефон.

На складзе БГФ «Наша Ніва» маецца ў наяўнасьці больш за 70 найменьняў касэтаў беларускіх рок-гуртоў, бардаў, поп-выканаўцаў. З поўным сьпісам можна азнаёміцца ў папярэдніх нумарах НН.

## НАВІНКА!

*Жоўтая кніга. Маніторынг 30.08.95 - 29.12.97. - Менск: Беларускі ПЭН-Цэнтар, 1998.*

Гісторыя насьмяялася з нас і цяпер мы маем сваю «ўласную» Жоўтую кнігу.

Захапляльна і падрабязна, з ілюстрацыямі, на трох мовах (беларускай, расейскай, ангельскай) распавядаецца пра ўдушэньне свабоды слова ў Беларусі. Пры друку кнігі выкарыстаная каляровая папера (жоўтая).

## НАВІНКА!

*Страчаная спадчына / Т.Габрусь, А.Кулагін, Ю.Чантурыя і інш. Уклад. Т.Габрусь. - Менск: Полымя, 1998. - 351 с.: іл. ISBN 985-07-0036-X*

Зрэалізаваны праект, пра які гаварылася апошніх 15 гадоў — збор матэрыялаў пра зьнішчаныя помнікі архітэктуры Беларусі і публікацыя гэтай інфармацыі. Усю нашую страчаную спадчыну немагчыма зьмясьціць у адным томе, таму гэтае выданьне можа стаць пачаткам цэлай сэрыі.

## НАВІНКІ!

*Дэкрэт «Аб Усходніх Каталіцкіх Цэрквах» [II Ватыканскі Сабор]. - Полацак: «Сафія», 1997. ISBN 985-644802-6*

Дэкрэт «Аб Усходніх Каталіцкіх Цэрквах» нармуе ўзаемаадносіны Апостальскай Сталіцы да Ўсходніх Цэркваў як каталіцкіх, так і праваслаўных. Выхад беларускага тэксту дэкрэту сымбалізуе адраджэньне грэка-каталіцтва ў Беларусі.



*Архім. Сяргей Гаек, іерам. Леанард Гурка. Эўропа, Эвангельле, Беларусь: Рэфлексіі напярэдадні Трэцяга Тысячагодзьдзя. - Ворша-Lublin-Харків, 1997 (Сэрыя СЛОВО, № 1). ISBN 83-7119-162-6*

Гэтая кніжка — першая з сэрыі «Слово», заснаванай Марыянскім Домам Студыяў Сьвятых Кірыла і Мятода ў Любліне ў супрацоўніцтве з грэка-каталіцкімі асяродкамі ў Воршы і Харкаве. Мэта сэрыі і гэтай кнігі — служыць дыялёгу паміж славянскімі цэрквамі ў духу Салунскіх Братоў.



*А. праф. Вацлаў Грыневіч. Пасхальныя матывы ў творах сьв. Кірылы Тураўскага. - Ворша-Lublin-Харків, 1997 (Сэрыя СЛОВО, № 2). ISBN 83-7119-167-7*

Аўтар працы — кіраўнік экумэнічнага інстытуту Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту. Праз увесь тэкст праходзіць тэзыс пра дамінаваньне ў рэлігійным сьветаадчуваньні ва Ўсходняй Эўропе апавядальнага і павучальнага элемэнтаў над рэфлексійна-інтэлектуальным. Велікодная тэалёгія і духоўнасьць сьв. Кірылы нагадвае аб прыярытэце жыцьця над дактрынай. У гэтым ён падобны да сьв. Кіпрыяна Картагенскага: «Мы філёзафы ня ў словах, але ў дзеяньнях; не гаворым вялікіх рэчаў, але жывем». У гэтым як сіла, так і пэўная слабасьць гэтак званага бытавога хрысьціянства.



*Священник Виктор Данилов. Мой путь к Богу и к Католической Церкви. - Полацак: «София», 1997. ISBN 985-6448-04-2 (Бел) ISBN 83-85509-24-0 (PL)*

Гэтая кніга-сьведчаньне пра тое, як ва ўмовах дзяржаўнага атэізму можна было стаць з атэіста перакананым хрысьціянінам. Айцец Віктар, былы вязень ГУЛАГу, з 1976 году ў Гародні, ва ўмовах падпольля, распачаў сваю дзейнасьць грэка-каталіцкага сьвятара. Гэтая грэка-каталіцкая парафія дзейнічае і цяпер.

СТО ТВОРАЎ XX СТАГОДЗЬДЗЯ

... Пачынаючы з 1910-х гадоў у архітэктуры Цэнтральнае Эўропы, у супрацьпастаўленьні да «бесстылёвасьці» эклектыкі і нарастаючай атэктанічнасьці мадэрну, пачала крышталізавацца новая хваля клясыцызму. Гэтае памкненьне да гармоніі і яснасьці вобразу, замяшанае на боязі найноўшых тэхналёгіяў, якія прынесла з сабою індустрыяльная рэвалюцыя, атрымала назоў «нэаклясыцызм». Аднак неўзабаве высьветлілася, наколькі бесперспэктыўным аказаўся гэты зварот у мінулае (дарэчы, не такое і даўняе). Памкненьне да «чысьціні» дойліды, адпаведна свайму тэмпэрамэнту і таленту, успрымалі па рознаму. Для Пітэра Бэрэнса (якому пазьней падражаў Іосіф Лянгбард) гэта было ўдалым супадзеньнем, якое яшчэ больш падкрэсьлівала магутнасьць ягонага канструктывізму. Для славутага венца Ота Вагнэра, нэаклясыка стала адной з фарбаў на ягонай непаўторнай, вагнэраўскай палітры архітэктурных прыёмаў. Для юнага француза Агюста Пэррэ клясыцыстычныя прыёмы былі толькі прыступкай да авангарднага функцыяналізму...

...Сур'ёзьней за ўсіх да нэаклясыкі паставіліся ў Расеі. У свой час менавіта клясыцызм быў дзяржаўным стылем імпэрыі. А таму ягоны стылістычны працяг лёгка ўпісваўся ў расейскі урбаністычны краявід. Праўда, чамусьці, клясыку расейскага нэаклясыцызму склалі беларусы: Крычынскі й Лялевіч у Пецярбурзе і Жалтоўскі ў Маскве...

У беларускім дойлідзтве 1910-х гадоў нэаклясыцыстычныя пабудовы адрозьніваліся дасканалым будаўляным майстэрствам, асаблівай пекнасьцю. Пры тым адразу выявілася пэўная халоднасьць вобразаў, здрабненьне фармальных дэкаратыўных прыёмаў. Найбольш яскрава творчыя прынцыпы нэаклясыкі выявіліся ў творчасьці менскіх архітэктараў Гая і Гайдукевіча, хоць помнікаў гэтага стылю багата па ўсёй Беларусі. Найбольш імпазантныя помнікі створаныя аднак у культавым дойлідзтве: Пакроўская царква ў Жабінцы, касьцёл у Шклове, Петрапаўлаўская царква ў вёсцы Возера на Вузьдзеншчыне, капліцы ў Магілёве, у вёсках Моладава і Салтанаўка і шмат, шмат іншых...

...Напрыканцы 20-х гадоў і пачатку 30-х нэаклясыцызм атрымаў шырокае распаўсюджаньне ў архітэктурных школах Італіі, Нямеччыны і СССР у выглядзе маштабных спарудаў, якія адлюстроўвалі таталітарныя ідэалёгіі. У другой палове 20-х гадоў нэаклясыцызм вярнуўся і ў Заходнюю Беларусь. Гэта была ўжо другая хваля беларускага нэаклясыцызму. У той час, пакуль сакральнае дойлідзтва па ранейшаму кампілявала ў рэтраспэктыўных стылях, клясыцыстычныя формы прыйшлі на зьмену нэабарока ў архітэктуры дзяржаўных установаў, жылых дамоў і крамаў...

Шэдэўрам беларускага нэаклясыцызму стаў баранавіцкі Пакроўскі сабор. Ён быў пастаўлены на працягу васьмі гадоў, з 1924 па 1932. Асноўны аб'ём бажніцы — чатырохслуповы ў пляне куб з прымыкаючымі да яго трыма паўкруглымі апсыдамі, пакрыты вялікім (найбольшым па тым часе ў краі) купалам з шасьцю круглымі люкарнамі па ўсім дыямэтры, якія наскрозь асьвятляюць пакупальную прастору інтэр'еру. Купал (у трэць сфэры), сканструяваны ў дзьве абалонкі й эфэктна ўвянчаны шарам з крыжам, які проста пастаўлены на купал і стварае ўражаньне хісткае раўнавагі. Здаецца, вось-вось падзьме вецер і гэты шар-«дзяржава» пакоціцца долу...

З заходняга боку, ад галоўнага фасаду, працяглая, завужаная трапезная злучае асноўны аб'ём з квадратнай у пляне трох'яруснай стромкай званіцаю, якая сканчаецца чатырохгранным цыбулепадобным шатром з высокім шпілем. У сакавітай плястыцы званіцы марфалягічныя элемэнты клясыцыстычнага дэкору трактаваныя досыць вольна: кутавыя адзінарныя і спараныя калёны, паўкалёны, лапаткі, прафіляваныя гзымсы ствараюць узаемаспарадкаваныя, але асобныя ў кожным ярусе рытмы. Абрысы званіцы — алюзія на неўтаймаваную плястыку тутэйшага барока. Звыклая і больш натуральная тутэйшая традыцыя эстэтычных уяўленьняў. Галоўны ўваход вызначаны паўцыркульным тымпанам, шчыльна ўстаўленым паміж дзьвюх паўкалёнаў. Паўднёвы й паўночны фасады выдзяляюцца манумэнтальнымі портыкамі, дэкараванымі моцна стылізаваным іянічным ордэрам. Яны, моцна вынесеныя за асноўны аб'ём, ствараюць надзвычай урачыстае афармленьне бакавых уваходаў у бажніцу, якія адчыняюцца падчас найбольшых сьвятаў. Атворы вокнаў і блэнды (вокнападобныя нішы)



# Пакроўскі сабор у Баранавічах

асноўнага аб'ёму, а таксамадругога ярусу званіцы аблямаваныя няглыбака прафіляванымі ліштвамі з трохкутнымі сандрыкамі.



Асобна варта адзначыць, што гэтая бажніца мае вялізарныя скляпеньні ў цокальным паверсе, куды вядуць самастойныя бакавыя праходы. Яшчэ глыбей зьмешаная вялікая крыпта, а пад алтаром і рызьніца. Гэтыя скляпеньні нагадваюць пра катакомбныя традыцыі раньняга хрысьціянства...

Будаўніцтва сабора перацярпела шэраг істотных зьменаў. Першапачакова плянавалася ўзьвесьці невялікую драўляную царкву па праекце архітэктара Юрыя (Ежы) Жаландкоўскага, па праекце якога быў пабудаваны зусім побач Крыжаўзьвядзенскі касьцёл. Гэты драўляны касьцёл, разьмешчаны па дыяганалі за колькі дзясяткаў мэтраў ад Пакроўскага сабору, уяўляе сабою даволі зграбную фантазію на тэмы народнага беларускага дойлідзтва, готыкі й барока. Падобна, што пастаўленая непадалёк драўляная ж царква, мусіла б адлюстроўваць нейкую ідэйную праграму. Напрыклад — спалучаць беларускія і ўсходнія, бізантыйскія матывы. Але ў той самы час урад Польшчы вырашыў зьнесьці ў цэнтры Варшавы расейскі катэдральны сабор Аляксандра Неўскага, які ўвасабляў сабою трыюмф Расейскае імпэрыі над Польшчай. Гэтая каляса́льная бажніца ў псэўдарускім стылі была пабудаваная ў 1902 годзе па праекце славутага пецярбурскага архітэктара Лявонція Бэнуа (які ў той самы час пабудаваў у Пецярбургу нэараманскі касьцёл у Ковенскім завулку). У 1923 годзе было вырашана яго зьліквідаваць. Але перад польскімі ўладамі паўстала праблема: як захаваць унікальныя мазаікі з гэтага сабору...

Буйныя мазаічныя пано для варшаўскага сабору былі выкананыя ў Пецярбургу, у буйнешай мазаічнай майстэрні В. Фралова. Мазаікі былі выкананыя паводле кардонаў і пад кіраўніцтвам славутых расейскіх мастакоў: М. Бруні, В. Васьняцова, М. Кошалева і В. Думітрашкі. Іх выраб адбваўся паэтапна, спачатку ў тэхніцы адваротнага набору (наклейваньне на кардон вонкавым бокам кавалачкаў смальты), а пасьля простага (мантаж на бэтон), ужо ў самой Варшаве. Унікальны мастацкі твор вырашана было закансэрваваць, зьняўшы са сьценаў сабору. Для іх разьмяшчэньня спатрэбілася іншае прыдатнае месца. Выбар выпаў на Баранавічы, дзе па настаяньню праваслаўнага клеру было вырашана пабудаваць бажніцу выключных памераў (зважаючы на веравызнаньне большасьці тутэйшага люду). Першапачаткова новая бажніца была задуманая, як паменшаная копія зьнесенага сабору ў Варшаве. Прыступілі да работаў. Але, на шчасьце, ад гэтай ідэі адмовіліся. Ад першага праекту засталіся толькі вялікія падземныя й цокальныя памяшканьні. Да новага праекту спрычыніўся архітэктар Станіслаў Філісевіч.

Творчае крэда Філісевіча можна вымоўна зразумець, пазнаёміўшыся зь ягонымі будынкамі банкаў, якія зьбераглiся дасёньня — у Берасьці (1926) і ў тых жа Баранавічах (1932). У ягонай творчасьці выкарыстаньне матываў позьняга клясыцызму спалучаецца зь іншымі стылёвымі запазычаньнямі, нагадваючы эклектызм 19 стагодзьдзя. Аднак свабодная, элеганцкая інтэрпрэтацыя рэтраспэктыўных элемэнтаў, арыгінальнасьць кампазыцыйных прыёмаў, а таксама простае абыходжаньне з найноўшымі матэрыяламі (сталь, бэтон, шкло) сьведчыць за ягоную мадэрнасьць.



Напрыклад, берасьцейскі банк уяўляе сабою трохпавярховы корпус з высокім цокальным паверхам, які складаецца з двух узаемапэрпэндыкулярных крылаў, злучаных аб'ёмам у выглядзе дамінуючай над ўсім гмахам ратонды са сфэрычным купалам. Кампазыцыйны акцэнт створаны на зарыентаваных на цэнтральную вуліцу і плошчу аб'ёмах, сцены якіх падзелены пілястрамі з іянічнымі капітэлямі й трохчвэрцевымі калёнамі. Дзякуючы дакладнай, халоднай і здробненай трактоўцы вонкавага дэкору, асабліва калі зважаць на магутны атык, будынак стварае ўражаньне манумэнтальнасьці, асаблівай значнасьці, што трапна адпавядае прызначэньню будынка. Няцяжка заўважыць, колькі элемэнтаў кампазыцыі й дэкору перанес на гэты будынак Філісевіч з праекту Пакроўскага сабору: скрыжаваньне аб'ёмаў, ратонда з купалам, высокі цокаль, які дадае манумэнтальнасьці, адвольна кампанаваны лёгкі іянічны ордэр...

Шукаць стылістычных аналягаў Пакроўскаму сабору ўсё ж бессэнсоўна... Па-першае, у тыя гады, бадай, толькі на Заходняй Беларусі былі магчымасьці разгарнуць такія работы для пабудовы праваслаўнага храму. Па-другое, спэцыфічныя задачы (экспанаваць ацалелыя мазаікі) вымагалі ад будаўнікоў і спэцыфічных архітэктурных прыёмаў.

На працягу 1926 і 1927 гадоў карпатліва закансэрваваныя мазаікі былі перавезеныя з Варшавы ў Баранавічы. Зробеныя ў сталіцы Расеі і адслужыўшы сваё ў сталіцы Польшчы, гэтыя шэдэўры мазаічнага рамяства знайшлі прыстанак у Беларусі. Мазаіка В. Васьняцова, «Маці Божае з малым Хрыстом», фрагмэнт некалі вялікай кампазыцыі «Пра цябе радуемся», зьмешчаная ў канцы апсыды, у алтарнай частцы. Мазаіка «Спас з данатарам», у тымпане франтона паўднёвага портыку, і «Дэісус», у портыку з поўначы, выробленыя па кардонах М. Кошалева. «Данатар» на каленях перад Хрыстом — партэт архітэктара Бэнуа з мадэльлю варшаўскага сабору ў далонях... Па кардонах акадэміка М. Бруні зробленыя мазаікі «Маці Божая з анёлам» (у інтэр'еры над паўднёвым уваходам), а таксама фрагмэнт кампазыцыі «Сабор архістраціга Міхаіла» (у тымпане паўночнага портыка). У інтэр'еры сабора ёсьць таксама яшчэ дзьве мазаікі В. Думітрашкі: на паўночным стаўпе — выява мітрапаліта Алексія, на паўднёвым — Іосіфа Валоцкага.

Мастацтва мазаікі было фактычна невядомае ў Беларусі да XX стагодзьдзя. Ягонае зьяўленьне ў нашым краі — частка культурніцкага экспарту з Расеі ў калёніі. Ці то гэта тычыцца мазаікі на фасадзе капліцы-пахавальні Сьвятаполк-Мірскіх у Міры (таксама з майстэрні Фралова), ці то на Катэдральным саборы ў Менску, дзесяць гадоў таму прывезенай з Масквы, гэта ўсё ж толькі экспарт. Але сваімі маштабамі мазаічны цыкль у Баранавічах ня мае сабе роўных у Беларусі (і ня толькі), роўна ж як і самой ідэяй праэкту — пабудаваць для ўжо йснуючых мастацкіх твораў спэцыяльны сабор...

У інтэр'еры Пакроўскага сабору зьбярогся таксама адзін з найбольшых у Беларусі іканастасаў. Вакананы ў псэўдабізантыйскім духу паміж 1929 і 1930 гадамі, ён быў адмыслова прызначаны для абразоў з варшаўскага сабору. Абразы, напісаныя і ў акадэмічнай манеры і ў «рускай», уяўляюць сабою ўнікальныя ўзоры афіцыйнага мастацтва, якія выканаалі клясыкі расейскага жывапісу: Васьняцоў, Бруні, Урубель...

Сярод усяе архітэктуры Беларусі Пакроўскі сабор у Баранавічах застаўся найбуйнешым помнікам нэаклясыцызму і самай значнай сакральнай пабудовай XX стагодзьдзя, давершанай у 1932 годзе.

**Сяргей Харэўскі**

**У ПАПЯРЭДНІХ НУМАРАХ ПРАДСТАЎЛЕНЫЯ ТВОРЫ:**

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск, лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамзнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы
18. Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча
19. Іосіф Лянгбард. Менская Опэра
20. Аркадзь Астаповіч. Дворык
21. Клаўдзі Дуж-Душэўскі. Сьцяг
22. Прывакзальная плошча ў Менску
23. Жукоўскі. Інтэр'ер

# ЭПІКОН

Дзімка Дарохін

## Жаласны чалавек

Апошнія летнія ночы ўжо былі вельмі халодныя. На станцыях рэдкія ліхтары выхоплівалі зь цемры разгубленыя дрэвы, якія раптоўна заўважылі, што прыйшла восень. Мой сябра і я вярталіся дахаты на апошняй электрычцы. Ехаць было амаль дзьве гадзіны, і каб прабавіць час, мы распачалі гуляць у дурня. Стаміўшыся за дзень, мы мэханічна кідалі карты, не запамінаючы, якія масьці выйшлі, а якія застаюцца на руках. Праз пару прыпынкаў у вагон увайшоў маленькага росту чалавек. На ім была старая балёневая куртка, месцамі разадраная і акуратна заклееная, запыленыя штаны і стаптаныя чаравікі. У руцэ чалавек трымаў палатняную торбачку, зь якой высоўваліся клапатліва заматаныя ў анучку галінкі парэчкі.

Вагон быў амаль пусты. Апроч нас, у канцы вагона сядзелі п'яныя дзецюкі ў скураных куртках. Яны пілі гарэлку і гучна лаяліся. Маленькі чалавечак з асьцярогаю кінуў позірк на гэтую кампанію і ціхенька падсеў на ўскрайку нашае лаўкі. Беражліва засунуўшы торбачку як мага глыбей пад лаўку, ён цяжкім рухам дастаў з кішэні зашмальцаваную насатку і з уздыхам выцер лоб.

— Які зараз час, не падскажаце, час які? — запытаўся чалавечак.

— Палова на адзінаццатую, — адказаў я, — які ў нас козыр?

— Чырва, ці не, чакай, хрэсьці, — адказаў сябра.

— Гэта атрымліваецца, — як бы пра сябе пачаў лічыць чалавечак, — дваццаць пяць хвілінаў... цягнік прыбывае... на тры хвіліны спазьняемся, — заключыў ён і нясьмела паглядзеў на сябра і на мяне.

— Ці будзеце гуляць з намі?

— Не, дзякуй, — ажывіўся чалавечак. — Я вось еду з дачы да Пухавічаў. Зараз восень пачнецца, працы будзе на гародзе, во-о-ох...

— Хто ходзіць? — запытаўся я.

— Ты.

— Дай папіць, калі ласка.

Сябра дастаў з сумкі літровую бутэльку з рэшткамі колы. Потым пустую бутэльку засунуў пад бок і разгарнуў свае карты.

— Хлопцы, дайце гэтую бутэльку мне, — жаласна, ціхай скарагаворкай прагаварыў чалавечак. — На дачу вады набраць, бо так вечарамі накапаесься, што смага... у нас калодзежу няма, а...

— Калі ласка.

Чалавечак хуценька ўзяў бутэльку і пачаў разглядаць чырвоную этыкетку. Ззаду нешта прараўло, і пачуўся звон стаканаў.

— Зараз цяжка, — загаварыў чалавечак. — У нашым ПМК заробак маленькі, праўда, плацяць у час. Хлеба з малаком купіў і больш за дзесяць тысячаў аддаў.

— Твая чарга, козыр хрэсьці.

— Валет.

— Вось раней добра было: паабедаць у сталоўцы — дваццаць капеек, а зараз паабедай за дваццаць капеек. Развалілі Саюз.

— Ну і добра, што развалілі, — прабурчэў я, забіраючы тузін шасьцёрак.

Чалавечак у зьдзіўленьні ўскінуў на мяне позірк. На нейкую хвіліну ён замаўчаў у недаўменьні. Мы працягвалі кідаць карты.

— А чаму вы кажаце, што добра, што развалілі Саюз?

— А таму, што нічога добрага не было, — уступіў у размову сябра, — нават кілбасы, а калі й была, дык чэргі стаялі па паўкілямэтры.

У гэты момант ззаду падняўся адзін зь дзецюкоў і, жахліва хістаючыся, накіраваўся да нашага сядзеньня. Ён падыйшоў да чалавечка і прароў: «Дай бутэльку, запіваць трэба!»

Чалавечак, здалося, ад жаху яшчэ больш змарнеў. Ён спужана сьцяўся, як кацяня перад сабакам, загнана кідаў позірк то на нас, то на п'янога. Зразумеўшы ўрэшце, чаго ад яго хочуць, чалавечак шпарка замармытаў: «А-а, бутэльку, бярыця-бярыця...» Ён здагадліва працягнуў бутэльку і ўжо асьмялелым голасам паўтарыў: «Бярыця, мне што, не шкада». Дзяцюк заграбастаў бутэльку і сыйшоў да сваіх.

Чалавечак згорблена сядзеў, склаўшы дрыжачыя рукі на каленях і ўтаропіўшы позірк на свае стаптаныя чаравікі. Ён нагадваў маленькага, безабароннага зьвярка, што толькі ўнікнуў небясьпекі, але ўсьведамляў сваю татальную бездапаможнасьць.

Я скоса пачаў назіраць за ім. Чалавечку было за пяцьдзясят. На твары ляжаў адбітак цяжкой і аднастайнай працы. Падбародзьдзе паскубленае тупым лязом. У вачах нічога, апроч безнадзейнай стомы.

— Станцыя Пухавічы, — абвясьціў рэпрадуктар.

— Ну, мне выходзіць, хлопцы, — ціха, амаль грудным голасам прагаварыў чалавечак. Ён цяжка падняўся і зьнік у тамбуры.

Якуб Колапс

## ВАЛАСЫ

### ... пад сярпом тваім.

*З клясыкі.*

Спачатку валасоў не было ўвогуле. Яно нават не адразу паверыла, пабачыўшы даўгі русы волас са сьлядамі даўняй фарбы на сваім пісьмовым стале. Яно нават не надало таму ўвагі — проста зьдзьмула недарэчную драбніцу, пасунула да сябе настольную лямпу і пабачыла на абажуры волас, падобны да першага. Яно накіравала гэты волас за сабратам, але на аркушы паперы знайшоўся трэці, зь лёгкай сівізной на канцы. Яно паспрабавала змахнуць яго рукой, ды няўдала — волас прыліп да далоні. Рука была потнай пасля нядаўняй вячэры, і яно пайшло мыць яе.

На дзьвярах у ванны пакой трапятаў наступны волас — брудны і скамечаны. Яно акуратна зьняло яго пазногцікамі і кінула на падлогу. А на падлозе ўжо ляжалі валасы — рудыя, сівыя, блакітныя... Яны былі і ў ванным пакоі — на люстэрку, чарупіне, на гелях, шампунях, зубных шчотках, на ручніках і ў самой ваньне. Яно паспрабавала іх змыць, але зьліў адразу забіўся мокрымі, брыдкімі валасамі. Ад вады валасы разбухлі й хутка пачалі пакрывацца цьвільлю. Яно ў жаху выскачыла з ваннага пакою і, топаючы нагамі па засьмечаным валасамі калідоры, кінулася на кухню па запалкі. На кухні валасы ужо акупавалі ўсе паверхні: падлогу і стол, падваконьне і лядоўню, шафу і газавую пліту.

Валасы, маленькія і шурпатыя, былі і ў карабку ад запалак. І ў другім карабку. І ў трэцім. Яно сутаргава схапілася за сэрца і там, у нагруднай кішэні, адчула запальнічку.

Пырснуў агеньчык. Даўка запахла паленымі валасамі. Спужаўшыся, што задыхнецца ў чадзе, яно чапнула імбрык і прынялося ліць навокал, на валасяное вогнішча, потым, адно за адным, выплеснула туды зьмест рандэлкаў, затым, мяркуючы знайсьці яшчэ нейкі посуд з вадкасьцю, адчыніла лядоўню.

Уся лядоўня была забітая мерзлымі валасамі. Яно ў адчаі захлопнула лядоўню і пачало затоптваць рэшткі вагню нагамі. Гарэлае валосьсе чаплялася за лыткі, казытала сьцёгны, паўзло вышэй... Валасы сыпаліся са сьцен і столі, перасоўваліся па ваконным шкле, злавесна віравалі ў паветры.

Яно зь сілаю выпхнула сябе зь небясьпечнае кухні і скачкамі, штурхаючы валасы направа і налева, кінулася па калідоры да выхаду.

Раптам нешта прымусіла яго спыніцца.

Наперадзе, пераліваючыся, зьзяла вялікая, пажадлівая, гідкая пашча. Яна напружана пульсавала, імпэтна клікала да сябе дрыготкімі, рытмічнымі вібрацыямі неахайнай валасістай паверхні.

Яно з апантанасьцю кінулася да пашчы і ўваткнулася, укруцілася, увагнала сябе ў яе з усёй нянавісьці, на якую было здольнае ў гэты момант...

Дзеяньне скончылася.

Вольга Колас

## УРБАНІСТЫЧНАЕ АТАЧЭНЬНЕ

Жыцьцё ледзяша, прымацаванага да пад'езнага брыля, атрымалася такім кароткім. Ён хутка падужэў і з простае сьпіцы, нанізаўшы на сябе ледзяныя бранзалеты, ператварыўся ў статную перавернутую піраміду. Прыгажэў ён пры сонечным сьвятле, і нават тады, калі сонца адпачывала за хмарнасьцю неба; магутны, непаўторны, убіраў у сябе розныя адценьні навакольнага сьвету. Аднак пасьля ён згубіў усе свае бранзалеты.

***

«Хуткая дапамога» стаіць ля нашага пад'езда. Некаму да зьнямогі дрэнна, боль не праходзіць без умяшальніцтва мэдыкаў. Некаму заўсёды дрэнна, зараз, потым. «Хуткая дапамога» —прыкмета болю. Цёплы вечар. Кабіна шафёра асьветленая. Чалавек сярэдніх гадоў бачны як на экране. Ён піша. Чаму яны так часта пішуць, лекары і нават іхныя шафёры? Куды дзяецца пасьля непатрэбная пісаніна? Хваробы, а магчыма і чалавека ўжо ня будзе, а зьвесткі пра разлад арганізму застануцца.

***

На мосьце знаходзісься вышэй да неба, і калі гэта час захаду сонца, можаш больш поўна назіраць яго. Калі табе перашкаджае шум аўтамабіляў і цягнікоў, бо знаходзісься ты ў цэнтры гораду, прыцісьні далоні да вушэй і толькі глядзі ўдалечыню — наперад. Урбанізаванае, шумнае, недасканалае жыцьцё і вечны, спакойны захад.

***

Гадзіньнік надакучліва б'е цішыню. Чуеш, як паштальёнка апускае газэты і капэрты ў скрыні. Пайду пагляджу. Можа, пра нас нехта памятае. Не, сёньня зноў няма лістоў, як не было іх учора і пазаўчора. Сьвет вялікі, аднак часта ён абмяжоўваецца працай, крамамі — паўсядзённымі патрэбамі. Людзі часта забываюць пра людзей і ня маюць патрэбы ў падтрыманьні старога сяброўства.

Заўсёды маю спадзяваньне, што ўбачу чаканы ліст заўтра...

АСЭНСАВАНЬНЕ ЧАСУ

Часам папракаю сябе за ляноту, аднак адных папрокаў мала. Гэта ўсё адно што сто разоў напісаць на паперы: «я абавязкова выканаю гэта», але няўжо што-небудзь... зьменіцца? Я баюся часу. Ён такі імклівы і мне страшна не пасьпець заўважыць нешта важнае, не зрабіць крок у жаданым кірунку. Цяжка пасьпець рэалізаваць хоць частку сваіх магчымасьцяў.

***

Як часта кажуць: у канцы XX стагодзьдзя. І ўжо сталася банальным ужываць падобнае словазлучэньне. Дарэчы, ня важна, калі мы жывем і мусіць дрэнна, што жыцьцё неяк вымяраецца, лічбамі-гадамі. Спакайней бы жылі бязь лічбаў. Штодзённа лічым, як машыны. Як пагоршылася ў гэтым пляне жыцьцё чалавека і як наогул зьменшылася, амаль зьнікла каштоўнасьць жыцьця.

Цяпер шмат людзей, якія ня думаюць (у сэнсе не займаюцца рэфлексіяй), а толькі існуюць. І невычэрпна жыць сярод раўнадушша, калі маеш патрэбу ў сяброўстве і шанаваньні цябе як адметнай асобы і ў прызнаньні тваёй своеасаблівасьці і непаўторнасьці. Ты будзеш толькі раз, аднойчы, у кароткі пэрыяд, імгненьне, і больш ніколі... Разуменьне гэтага прыгнечвае і ўзносіць нас.

***

Стаўлюся з пагардай да схільнасці к пэсымізму і выкліканага ім сябешкадаваньня. Апошняе сьведчыць пра чалавечую слабасьць. Паглыбляесься, не... адмяжоўваесься ад рэчаіснасьці і сканцэнтроўваесься на ўласным, актуальным толькі тады, болю. Сьвет мяняе колеры, робіцца скрайне непрывабным. Здаецца, што рухацца далей бессэнсоўна — усё, што ні зробіш, не прынясе ніякай карысьці, ані задавальненьня, але і заставацца на прыпынку жахліва.

Алесь Менскі і Кася

## АДЗІН ДЗЕНЬ

Чацьвер. 21.00

Ды што гэта за кава... Дрэнь нейкая, ды яшчэ ў гранёнай шклянцы.

Я сядзеў у невялічкім бары ўнівэрсаму «Рыга» ды марна намагаўся ўліць у сябе колькі глыткоў брыдкага напою. Нарэшце я стомлена адкінуўся назад, заплюшчыў вочы ды пачаў прыслухоўвацца да размовы двух хлопцаў ззаду.

Гэта, канешне, не зусім этычна, але што, прабачце, можна было рабіць яшчэ? Тым больш, хлопцы гаманілі па-беларуску.

— Не, не дуры мне галаву сваімі байкамі, Міхась, — казаў адзін зь іх.

— Ды я кажу табе як чалавеку: гэта магчыма, — цягнуў іншы занудлівым голасам.

— Я ведаю, што гэта было магчыма шэсьцьсот гадоў таму. Калі Вітаўт не прайграў бітву на Ворскле — тады так. Усё было па-іншаму.

— Усё будзе па-іншаму, Віталь. Што мы ведаем зараз: ход і зыход бітвы. Дык чаму б ня даць Вітаўту ведаць пра іх? Мо ён зробіць сякія-такія высновы і пераможа Цемір-Кутлука ды ўмацуе Княства яшчэ больш. Мо й мы тады ня будзем сядзець у гэтым ідыёцкім месцы ды цісьнуць галаву ў плечы?

— Але, Міхась, прыгадай наш колішні экспэрымэнт з часам...

Размова набывала яўна правакацыйны характар. Па ўсім відаць, хлопцы зразумелі, што я прыслухоўваюся да іх ды вырашылі строіць жарцікі. Так і не дапіўшы каву, я выйшаў з унівэрсаму. На мяне патыхнула водарам веснавое гарадзкое вуліцы. Недзе за тралейбусным дротам сьвяціўся надпіс «Беларусьбанк». «Ужо дабудавалі», — падумаў я і рушыў дадому.

Чацьвер. 21.00

Не, гэта ўжо занадта. Содавая зусім выдахнулася, а ільдзінкі ў ёй даўно расталі. Я не зьбіраўся піць гэтую вадкасьць і міжволі агледзеўся па баках.

У невялічкай забягалаўцы пад незразумелай назваю «Alligator's Bar» было тлумна, як і ў кожным бары ў цэнтры Бостану. Публіка тут была, мякка кажучы, ня вельмі. Асабліва шмат было розных тыпаў з напаўлегальнага Таварыства ангельскае мовы ды іншай набрыдзі.

Маю ўвагу прыцягнула даволі гучная размова двух хлопцаў за суседнім столікам. Я ня ведаю, пра што яны размаўлялі, бо так і ня вывучыў ангельскае мовы. Аднак імя Вітаўта, бітва на Ворскле ды хан Цемір-Кутлук узгадваліся ледзьве ня ў кожным сказе. Але каму патрэбная тая ангельская мова, акрамя купкі дасьледчыкаў-энтузіястаў з абражаным гонарам? Я, па шчырасьці, і ня думаў, што на ёй нехта яшчэ размаўляе.

Калі я выйшаў з бару, горад віраваў, як заўсёды. Недзе далёка ўгары сьвяціліся літары «Беларусьбанк». «Ужо дабудавалі», — падумалася мне.

Юрась Півуноў

## 1994. ПРАСЬВЯТЛЕНЬНЕ

... Імкліва несучыся па горнай рацэ жыцьця, часам няма калі бывае нават на хвіліну прыпыніцца ў бясконцым бегу дзён, падумаць пра вечнае...

І толькі цяжкая хвароба, што на месяцы, а то й гады, пазбаўляе магчымасьці актыўна кантактаваць з навакольным сьветам, вырывае цябе з гэтае шалёнае плыні быцьця.

Вось тады й ёсьць час падумаць аб сапраўднай вартасьці тых рэчаў і людзей, што вакол цябе. Менавіта тады й праяўляецца часьцей за ўсё сапраўднае аблічча навакольнага.

Адразу становіцца бачна, хто сябра табе, а хто — так, знаёмец. Нечакана адкрываеш для сябе, што, нягледзячы на тваю амаль незаменнасьць (безумоўна, толькі ўяўную) на працы, ніхто не дадумаецца наведаць цябе, а часам і хаця б проста затэлефанаваць. Цікавіць толькі твая здольнасьць да працы (і тое, калі ты здолееш вярнуцца да яе). Тваё ж здароўе, па вялікім рахунку, стан душы мала каго цікавяць.

Пры ўсёй бачнай незайздроснасьці гэткага становішча, ёсьць, на маю думку, тут вялікі «плюс». Бо ёсьць час пераасэнсаваць пражытае, паразважаць, як жыць далей.

Шмат хто, вярнуўшыся пасьля доўгага перапынку да актыўнага жыцьця, становіцца літаральна ІНШЫМ чалавекам. І зьяўляецца думка: а ці не адмыслова гэта робіцца? Можа, тая цяжкая хвароба, тое насланьнё даецца табе Богам, каб задумаўся ты: «Ці так я жыву? Навошта я жыву? Дзеля чаго нарадзіўся на гэты сьвет?» І робіць гэта Ўсявышні-Збавіцель, каб сапраўды ЗБАВІЦЬ ад згубы духоўнай, а мажліва й фізычнай, спыніць ля краю бездані?

.. ТОЙ год быў цяжкім для мяне. Памерла шмат родных ды блізкіх мне людзей. Нават прыходзілі думкі пра нейкую фатальнасьць лёсу свайго роду (ці награшылі зашмат?), хацелася, каб страшны той год хутчэй скончыўся...

Урэшце, здарылася гэтак, што я й сам на апошнім месяцы таго чорнага году ледзь не разьвітаўся зь зямным жыцьцём...

Цяпер, пішучы гэтыя радкі, я ўдзячны Богу, што, паслаўшы мне цяжкое, сьмяротнае выпрабаваньне, ЁН збавіў маю душу. Чаго абдумаўшы, я стаў іншым. Я ўжо ня той, што быў...



# АВАНТУРЫ ЯГО ЖЫЦЬЦЯ

## *Рысы да партрэту генэрала Хадзькевіча*

*Я, сын Фартуны, заўсёды шчасьлівы!*
Зь ліста Ігнація Хадзькевіча да Яна Генрыка Дамброўскага

*Ёсьць па кім вочы выціраць! Тып, які ў Рыме зганьбіў сябе й Легіёны, як зграю барбараў, бліскануў на сваёй Бацькаўшчыне такой жа пышнасьцю!*
Вацлаў Бэрэнт

Аднойчы я натрапіў на газэтны артыкул, дзе гаворка ішла аб апошнім навуковым адкрыцьці дасьледчыкаў з Дэлавэрскага ўнівэрсытэту ў ЗША. Было выяўлена, што людзі, схільныя да празьмернай рызыкі, у літаральным сэнсе зробленыя зь іншага цеста. Біяхімічны склад актыўных рэчываў у іх мазгу адметны ад нормы, што дазваляе адчуць ня жах, а эйфарыю. І чым вышэйшыя стаўкі, тым большае захапленьне апантанага. Кара галаўнога мозгу вылучаецца павышанаю трываласьцю...

У нашае гісторыі заўсёды хапала людзей зь «іншага цеста», асабліва ў XVIII ст. Я адчуў, што трохі наблізіўся да разуменьня нутраной прыроды гэтых людзей. Быў атрыманы штуршок да больш дэталёвага разгляду фэномэну.

Ігнаці Хадзькевіч (ён жа Ходзькевіч, Хадзкевіч, Хацкевіч. Ён жа граф Дэнгоф. Ён жа генэрал Лядаіска, ён жа «гулец», ён жа «шулер»), беларускі шляхціц. Каронны гвардзеец, капітан грэнадзёрскага Сібірскага палку князя Дашкава, удзельнік штурму Ачакава, падпалкоўнік войскаў Вялікага Княства Літоўскага, генэрал-ад'ютант пры штабах францускіх генэралаў-аншэфаў Шампіанэ і Масэны, кавалер Ордэну Ганаровага Легіёну, удзельнік Вялікае францускае рэвалюцыі і паўстаньня 1794 г. у Рэчы Паспалітай, расейскі і францускі шпіён, шэф паліцыі Нэапалю, шэф звышштатнага кавалерыйскага эскадрону ў польскіх Легіёнах, палітвязень, шулер найвышэйшае клясы...



**ЧАСТКА 1**

Поўнач Расеі. Зімовая пахмурная раніца 1823 г. Карчма ў ваколіцах Вяткі. Паклаўшы галаву на стол, паўляжыць чалавек. Побач пачатае вядро гарэлкі... Судовы прыстаў канстатуе сьмерць сасланага літоўскага шляхціца Хадзькевіча ці Хацкевіча, ці як яго там яшчэ?! Пры магчымай спробе зьбегчы... А ўвечары, праклінаючы надвор'е, дарогі і ўсё вакол, прымчаўся фэльд'егер з ужо непатрэбным Найвышэйшым дараваньнем.

Што нам сёньня з таго, што недзе калісьці памёр нейкі шляхціц — ці мала іх памірала? Ці дзіўна, што аддаваў сваю шпагу направа й налева? Не. Для тых часоў цалкам натуральная рэч. А між тым, перад намі — чалавек-легенда, адзін з апошніх вялікіх авантурнікаў XVIII стагодзьдзя.

### I. РАДАВОД

Радавод ягоны нічым асабліва не вылучаўся з соцень падобных, што можна ўбачыць у гербоўніках літоўскае ці кароннае шляхты. Паходзіў з заможнага дому гербу «Касьцеша» з мсьціслаўскага ваяводзтва. Першым значным учынкам у жыцьці нашага героя была падробка ўласнае мэтрыкі — дзеля таго, каб хутчэй увайсьці ва ўладаньне спадчынай, якая засталася пасьля сьмерці бацькі Людвіка, віленскага земскага судзьдзі. Таму цяжка сказаць дакладна, калі Ігнаці зьявіўся на сьвет. Генрык Масьціцкі лічыць прыблізнаю датай 1760 год.

### II. ЮНАЦТВА НА ТЛЕ ЗАКАТУ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ

Нядоўга малады пан Ігнаці заставаўся спадчыньнікам — усё багацьце прагуляў ды спусьціў за зялёным столікам. І тым хутчэй прайграваў, чым больш уладаньні абрасталі даўгамі. Гэта быў усяго толькі кошт за навуку. Набывалася нешта, на яго погляд, куды больш важнае за бацькоўскія маёнткі — неперажнасьць у картах.

У пошуках багатага пасагу ўзяў шлюб з Кацярынай Вільгастоўскай, ад якога нарадзіліся два сыны. Старэйшы стане палкоўнікам у расейскім войску, а малодшы — пісьменьнікам і вучоным.

Любоў да бляску і зьнешніх эфэктаў падказвала ісьці ў войска. Нядоўга прабыўшы ў шэрагах кароннае гвардыі, прытулку для злачынцаў і падонкаў, зразумеў, што падвышэньня па службе лепш шукаць у Расеі.

### III. ГЕРОЙ АЧАКАВА

Паступіў у Сібірскі грэнадзёрскі полк князя Ачакава. І прыняў удзел у вайне з туркамі. Ягоная сьмеласьць пры штурме Ачакава ўразіла старэчу Суворава. Атрымаў крыж і званьне капітана.

Вайну скончылі. Аднастайнае жыцьцё ў залоге зусім ня вабіла. Падаў у адастаўку і рушыў у падарожжа па Эўропе.

### IV. «ХАДЗЕМА, ШАНОЎНАЯ ГРАМАДА!»

У Парыж прыбыў своечасова. Пачыналася Вялікая рэвалюцыя... «Хадзема, шаноўная грамада!» — гаркнуў Хадзькевіч і павёў уласны, хутка зьлеплены аддзел санкюлётаў пад сьцены Бастыліі. Але цяжка было доўга заставацца ў гушчары падзеяў і ня трапіць пад аўстрыйскія кулі ці пад сякеру гільятыны. Не рызыкнуў, тым больш, што дома цяпер рабілася ня менш цікавае.

### V. ДОМА

З траўня прынялі Канстытуцыю. Тыя, хто былі незадаволеныя пераменамі, абапіраючыся на расейскія штыкі, стварылі канфэдэрацыю ў Таргавіцы. У кампаніі 1792 г. удзелу ня ўзяў, а сябраў меў з абодвух бакоў. Працаўнікі новага ладу не перамаглі.

### VI. ХАДЗЬКЕВІЧ І ЯСІНСКІ

У 1793 г. пан Ігнацы пераехаў у Вільню, дзе разьвёўся з жонкай, адкрыў уласны ігорны дом ды ўступіў у шэрагі змоўнікаў. Тады ж, за картамі, ці раней — невядома, пасябраваў з кіраўніком літоўскіх патрыётаў палкоўнікам інжынэрыі Якубам Ясінскім. Не падазраваў палкоўнік, што для Хадзькевіча ўся кансьпірацыя была толькі забавай ды жартамі, а то, верагодна, упісаў бы прозьвішча сябра ў сотню-другую тых, каго трэба было б павесіць «дзеля выратаваньня мільёнаў». Ясінскі робіць пана Ігнацыя сваім ад'ютантам і надае званьне капітана войскаў Вялікага Княства Літоўскага. Некаторыя гісторыкі лічаць, што Хадзькевіч ужо тады быў на службе расейскага выведу.

Уначы з 22 на 23 красавіка 1794 Ясінскі на чале 240 жаўнераў абяззбройвае ў некалькі разоў перасягаючую па колькасьці расейскую залогу. Праз два дні ён адпраўляе Хадзькевіча да Касьцюшкі са зьвесткамі пра паўстаньне ў Літве і пакараньне сьмерцю здрадніка гетмана Касакоўскага. Хадзькевіч прывёз Ясінскаму патэнт генэрал-лейтэнанта, а для сябе 11 жніўня дамогся эпалеты падпалкоўніка.

У канцы лета сытуацыя значна пагоршылася. Якуб апынуўся на другіх ролях, а Вільня пала 12 жніўня. Усё кацілася ў бездань.

### VII. ПАН ТАДЭВУШ ПАКУТУЕ Ў ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЙ КРЭПАСЬЦІ, А ПАН ІГНАЦЫ Ў ТУРЭЦКАЙ ПРАВІНЦЫІ

Пасьля падаўленьня паўстаньня быў арыштаваны расейцамі, як лічыў Масьціцкі, толькі дзеля выгляду, і як ваеннапалонны сядзеў у Пагрэбішчах, узяты на парукі Адамам Жэвускім, адкуль хутка зьбег, чым зрабіў гаспадару шмат непрыемнасьцяў.

Аб'явіўся на турэцкай тэрыторыі ў малдаўскага пашы Пасвана-Аглу. Хадзькевіч з цяжкасьцю трывае вымушанае знаходжаньне ў Малдове. «Туркі ні ваяваць ня ўмеюць, ні гуляць у карты», — гаварыў ён. Так і пакутаваў да траўня 1797 г., пакуль Павал I ня выпусьціў на волю Касьцюшку, а зь ім усіх, хто здолеў ацалець.

### VIII. ЗА МАЛДАЎСКІМ ПАСТОМ - РАЙ У КАНСТАНЦІНОПАЛІ

Прыехаў у Вільню і прынес прысягу новаму імпэратару. Калі дагэтуль гісторыкі толькі дапушчалі, што быў шпіёнам, то цяпер гэта ні ў кого не выклікае сумневаў. Пасьля Вільні прамільгнуў у С.-Пецярбурзе (магчыма, атрымліваў інструкцыі), і зноў у Турэччыну, з таямнічай дыпляматычна-шпіёнскай місіяй.

На гэты раз у куды больш вясёлае месца — Канстанцінопаль. Рэзыдэнт Хадзькевіча амбасадар барон Качубей уводзіць яго ў вышэйшы сьвет сталіцы. Гэты было тое ж, як прывесьці ваўка ў аўчарню. Ардэнаносныя прафэсіяналы ад палітыкі, переможцы бітваў на сушы і на моры, на зялёным сукне несьлі сакрушальныя паразы ад падпалкоўніка Хадзькевіча. Больш за ўсіх не пашанцавала партугальскаму консулу Лябрашу. На наступны дзень пасьля ад'езду «расейскага дыплямата» ўвесь Стамбул ведаў, што ён прыхапіў з сабой і жонку консула...

### IX. LEGION DES FRANCE DU NORD

Карэта імчала каханкаў у Францыю. Якабінскі тэрор зьмяніўся смутнаю адлігаю Дырэкторыі. Па старой памяці наведаў Парыж. Колькі зьмянілася за гэты час! Дзе ажыўленьне 1789 году? Рэвалюцыя, патрабуючы абаронцаў, ачысьціла вуліцы. Там, на ўскраінах Рэспублікі, цяпер кіпіць сапраўднае жыцьцё. Пра гульню ў карты — бадай, адзінае крыніцы паступленьняў, — не было й гаворкі — усе ў войску. Хадзькевіч для м-м Лабраш грошаў не шкадаваў, так што першы раз у жыцьці апынуўся перад пагрозай арышту за даўгі. Як сапраўдны кавалер, ён ня мог кінуць жанчыну і ўцякчы з гораду. На шчасьце, здолеў угаварыць крэдытораў пачакаць. Вопытнаму афіцэру занятак знайшоўся хутка. Выступіў на чале батальёну супраць Вандэі. Добраахвотніцкі Паўночны Легіён Хоха стаў на той момант ягонай «Бацькаўшчынай». Граміў раялістаў і пра сябе не забываўся — цягнуў цэлы абоз нарабаванага антыкварыяту, каштоўных строяў ды іншых прадметаў раскошы. Крэдыторы засталіся задаволеныя.

### X. ХАДЗЬКЕВІЧ І ЛЕГІЁНЫ

А ў гэты час легендарны генэрал Ян Генрык Дамброўскі пачаў ажыцьцяўляць вялікую справу, пра якую марыў яшчэ падчас II падзелу Рэчы Паспалітай. Дырэкторыя, якая ваявала амаль з усёй Эўропай, дала дазвол на фармаваньне ў Італіі за францускія грошы г.зв. Польскага Легіёну з грамадзянаў былых Кароны і Вялікага Княства, што змагаліся ў аўстрыйскім войску і трапілі ў палон пад Мантуяй.

Хадзькевіч і Легіёны... Калі ён зьявіўся на іхнім небасхіле, яго грэнадзёрская постаць на імгненьне засланіла Дамброўскага і ня менш магутнага Карла Князевіча, узьведзенага Касьцюшкам у генэралы на полі бітвы. Прамільгнуў хутка, як зьніч, але й гэтага было дастаткова, каб прымусіць Эўропу глядзець на легіёны як на гэткую ж супярэчлівую зьяву, якой быў сам.

У Хоха праваяваў нядоўга. У карты гуляць ізноў не было з кім, а аграмадны абоз станавілася цягнуць усё цяжэй і цяжэй. Сышоўся зь Пятром Малешаўскім, па словах Масьціцкага, таксама асобай цёмнай, і праз яго пазнаёміўся з самім Полем Барасам. Па пратэкцыі апошняга перанесься да Італіі. Уладкаваўся ў Рыме. На Віля Баргезэ адкрыў шыкоўны ігорны дом.

Ня ў стане доўга знаходзіцца ўдалечыні ад ваенных прыгодаў, выказаў жаданьне ўступіць у Легіёны. Дамброўскаму і так хапала падазроных постацяў, а ператвараць здаровае цела свайго войска ў Легіён іншаземцаў не хацеў. Хадзькевіч зрабіў свае захады. У адзін зь дзён генэрал Макдональд выклікае Князевіча: «Мой генэрал, прыемна мне адчуваць дух, які між вамі пануе; выйшаў толькі што ад мяне афіцэр (яшчэ зь непрызначаных), мае доказы, што служыў падпалкоўнікам, хоча з намі ісьці як падпаручнік, просіць толькі аб тым, каб яго хутчэй прызначылі, а ён яшчэ роту сваім коштам апране. Як мага хутчэй, бо часу ня маем, таму прашу генэрала прызначыць яго зараз жа». Князевіч толькі вылаяўся пра сябе, але нічога рабіць не заставалася. Трэба заўважыць, з французамі Хадзькевіч адну мову знаходзіў куды прасьцей і хутчэй, чым зь землякамі. Меў сяброў і добрых знаёмых сярод генэралаў: Шампіянэ, Макдональда, Жубэра, Масэны, Маро, Бэрнадота (гаварылі, Банапарт таксама заўважыў літоўскага падпалкоўніка). Праз некаторы час пачаў шукаць хады па атрыманьні шэфаўства над усёй кавалерыяй. Дарэмна. Для кіраўніцтва Легіёнаў ён быў у першую чаргу проста авантурнікам і драпежнікам. Раззлаваны, пачаў плесьці інтрыгі супраць Дамброўскага і Князевіча, павуціньне якіх разарваў выбух Нэапалітанскае вайны. З усіх бакоў на Рым рушылі аўстрыйцы, расейцы, нэапалітанцы. 8-мітысячная франка-польская залога сьпешна пакідала горад успазоры 80 тысячаў генэрала Мака. Дзе ўжо тут да высьвятленьня адносінаў!

### XI. ХАДЗЬКЕВІЧ, ШАМПІЯНЭ Й «ЗБАЎЧЫЯ ЛЁЗУНГІ РЭВАЛЮЦЫІ»

... Як толькі чуў звон шабляў, адразу ж кідаўся ў гушчар бітвы. Шампіянэ адзначыў «ільвіную адвагу» ліцьвіна і прыстроіў пры сваім штабе. Па войсках пайшла чутка, што ў адной з сутычак, калі генэрал-аншэфа абкружылі аўстрыйцы, Хадзькевіч адным ударам палаша зьнес галаву найвялікшаму з атакаваўшых драбаў. Пасьля гэтага выпадку для Шампіянэ стаў у адной асобе ад'ютантам, целаахоўнікам, памочнікам па асобых (і далікатных) даручэньнях, проста сябрам. Патураньняў для сябе не рабіў, а кулі не выбіраюць — пад Ітры быў цяжка паранены...

На чале двух батальёнаў узяў Мандові, за што, як пісаў граф Жэвускі, атрымаў генэральства (іншыя крыніцы не пацьвярджаюць). Прагны і амбітны Шампіянэ ня супраць павялічыць сваю маёмасьць за кошт працаўніка, у чым знаходзіць падтрымку ўлюбёнага ад'ютанта. Аднойчы, пасьля таго, як вораг замардаваў параненых у францускім лязарэце, Хадзькевіч выступіў дабраахвотнікам на чале карнае экспэдыцыі. А калі нехта запытаў яго, куды рушыць, адказаў з уласьцівым яму цынізмам: «Маю загад даць асьвету мясцовым жыхарам, каб здольныя былі да прыняцьця свабоды, якая іх чакае» ці, як у Бэрэнта — «збаўчых лёзунгаў Рэвалюцыі». Мястэчка Маяна, побач зь якім ляжаў няшчасны лязарэт, пайшло

дымам, а ўсё, што было вартае паратунку — рабавалася.

... Дамброўскі і Князевіч з занепакоенасьцю назіралі, як шматлікія справы Легіёну цяпер залежалі ад падтрымкі Хадзькевіча.

### XII. ГЕНЭРАЛ ЛЯДАІСКА, ШЭФ ПАЛІЦЫІ НЭАПАЛЮ

Аправіўшыся ад першых паразаў, французы дзень за днём прыводзілі хаўрусьнікам доказы свайго ваеннага мастацтва, народжанага свабодай Рэвалюцыі. У студзені 1799 здабылі Нэапаль. Хадзькевіч настолькі добра спраўляўся з абавязкамі, асабліва ў частцы трафэяў і кантрыбуцыяў, што Шампіянэ не знайшоў лепшай кандыдатуры на пасаду шэфа гарадзкой паліцыі. Галоўны паліцэйскі вельмі нагадваў героя з опэры-буф і, нібыта ў жаданьні да канца адпавядаць апэрэтачнаму антуражу, бярэ прозьвішча «генэрал Лядаіска» — аднаго з пэрсанажаў раману Лювэ дэ Куврэ «Прыгоды кавалера дэ Фаблэ», заснаванага на фікцыйных падзеях з жыцьця Рэчы Паспалітай.

### XIII. ХАДЗЬКЕВІЧ І ЛЕГІЁНЫ - 2

Подзьвігі Хадзькевіча ня лепшым чынам адбіваліся на рэпутацыі Легіёнаў. Многіх абурала, што пры рабунках у Нэапалі ён карыстаўся паслугамі легіёнавых грэнадзёраў, а маладыя афіцэры, трапляючы пад уплыў прыцягальнасьці ягонай постаці, ператвараліся ў «дрэнных хлопцаў».

Нягледзячы ні на што, працягваў беспасьпяховыя спробы стаць шэфам кавалерыі і, нарэшце, угаварыў Дамброўскага даць згоду на стварэньне за ўласны кошт двух звышштатных эскадронаў. Дамброўскаму цяжка было зьвязваць сябе з марадзёрам, які цягнуўся за Легіёнамі «па ўсёй Эўропе крывавым сьледам». Але... Яму так не хапала кавалерыі!

### XIV. ГЕНЭРАЛЬСКІЯ ЭПАЛЕТЫ І ОРДЭН ГАНАРОВАГА ЛЕГІЁНУ

Перамогу ў нэапалітанскай кампаніі адзначылі трыюмфальным уездам у Парыж. Не аддаючы перавагі зайздросным французскім генэралам, на чале калёны Шампіянэ паставіў Князевіча, чыя багатырская постаць і велічны жэст — нібыта адлітая з бронзы конная статуя, — рабілі зь яго ідэальнага прадстаўніка абодвух перамогшых войскаў. ...А ў ар'ергардзе рушыў прылучаны да вайсковага абозу Дамброўскага табар з трафэямі генэраланшэфа і Лядаіска.

Паводле чарговага сьведчаньня, на гэты раз віленскага актора Скібінскага, Хадзькевіч за ўдзел у кампаніі быў адзначаны генэральскімі эпалетамі, а пазьней — Ордэнам Ганаровага Легіёну.

### XV. ХАДЗЬКЕВІЧ МІЖНАРОДНЫ ФІНАНСАВЫ АФЭРЫСТ

Урачыстасьці толькі суцішыліся, а Хадзькевіча выклікаў Барас — каб прапанаваць выкананьне буйной фінансавай дывэрсіі. Дырэкторыя надрукавала аўстрыйскіх банкнотаў на многія мільёны, і Хадзькевіч павінен быў паклапаціцца аб тым, каб яны як мага хутчэй разышліся па абшарах праціўніка. Французы ў выпадку правалу, па палітычных матывах не маглі аказваць дапамогу ў выратаваньні, але ж і стаўкі былі фантастычныя! За 100 падробленых атрымліваў 20 сапраўдных. Пад прозьвішчам графа Дэнгофа з Інфлянтаў, разам з м-м Лябраш адправіўся ў падарожжа. Зьдзіўляў і захапляў правінцыяльную Нямеччыну. Многа пазьней гаварыў графу Жэвускаму, што патраціў тады ня менш за 10 мільёнаў рэйнскіх гульдэнаў! Спыніўся ў Франкфурце ў сувязі зь цяжарнасьцю м-м Лябраш, дзе трапіў у поле зроку ўладаў. Нехта з атачэньня папярэдзіў, што ёсьць загад аб яго арышце. Прыхапіў самыя каштоўныя рэчы і пешшу ўцёк да Парыжу. У ліхаманкавай сьпешцы нават ня здолеў разьвітацца з м-м Лябраш. Пасьля зьнікненьня Хадзькевіча ў сваім сэкрытэры яна знайшла тысячу луідораў і шмат каштоўнасьцяў...

### XVI. 18 БРУМЭРА НАПАЛЕОНА БАНАПАРТА

Пакуль ён разьяжджаў, група вышэйшых французскіх генэралаў, усё тыя ж Шампіянэ, Бэрнадот ды іншыя задумалі зьдзейсьніць ваенны пераварот — Дырэкторыю замяніць на Трыюмвірат на чале з Бэрнадотам. Шампіянэ ўзгадаў пра спрытнага ад'ютанта і запрасіў далучацца. Пакуль рыхтаваліся, 18 брумэра VIII году Рэспублікі ўсіх прагнучых улады апярэдзіў генэрал Банапарт, а цяпер — Першы Консул.

Прыйшлося хутка замятаць сьляды... І не сьвяціцца ў Парыжы.

### XVII. У ЦЕНЮ ГІЛЬЯТЫНЫ

У наступным 1800 годзе Хадзькевіч удзельнічае ў аблозе Генуі ў войску Масэны. За адвагу і незвычайныя здольнасьці прызначаны генэрал-ад'ютантам пры штабе. Праўда, у Легіёнах далёка ня ўсе прызналі ягонае генэральства.

Заняпад Масэны, замяшанага ў цёмныя грашовыя афэры і ваенна-палітычныя падкопы, пацягнуў за сабой ўсіх астатніх. Хадзькевіча арыштавалі на падставе... падробкі аўстрыйскіх банкнотаў. Канешне, гэта была толькі зачэпка. Напалеон, узмацняючы дыктатарскую ўладу, даручыў міністру паліцыі Фушэ высьветліць пра ўсіх няўдалых канкурэнтаў. Не жадаючы настройваць супраць сябе вядомых генэралаў — калі хто зь іх і трапляў у няласку, дык ненадоўга. Затое без усялякіх цырымоніяў пахапалі дзеячоў другарадных.

Хадзькевіч хлусіў і выкручваўся як вуж. Гульня са сьледчымі каштавала пакуль што месяцамі чаканьня сьмерці. Паміраe Шампіянэ. Лядаіска ні хвіліны не сумняваецца, што ягоны апекун быў атручаны. Пасьля гэтае весткі распавёў пра ўсё... Праз два гады сьледзтва кроў арыштаваных ужо нікому не была патрэбная, а іхныя паказаньні ўяўлялі цікаўнасьць хутчэй для архіваў. Рэспубліканская Францыя стаяла на парозе імпэрыі.

У Фушэ было досыць часу, каб упэўніцца ў здольнасьцях Хадзькевіча, якога намераваўся выкарыстаць у шпіёнскіх мэтах. Гэта было няцяжка — падчас Консульства слава генэрала Лядаіска парасла бур'янам.

### XVIII. ФРАНЦУСКАЯ ПАДЗЯКА

Недзе ў 1802 г. выйшаў на волю. Атрымаў назад усе ўзнагароды і званьні, а таксама прызначэньне камандзірам над некалькімі батальёнамі, якія ствараліся ў Нармандыі, але разам з тым і вуснае ўказаньне, каб праз некаторы час падаў у адстаўку (як іншаземец, замяшаны ў палітычную змову). Французы, улічваючы былыя заслугі генэрала, забясьпечылі пасьведчаньне аб адстаўцы найлепшымі рэкамэндацыямі і прызналі права патрабаваць палову пэнсіі, якая належыць ягонаму званьню. Ад пэнсіі з гонарам адмовіўся.

### XIX. ПЕЦЯРБУРСКІЯ ЗЛОПРЫГОДЫ

Напрыканцы 1802 году з Гаўра паплыў да С.-Пецярбурга. У адзіноце. Неразлучная м-м Лябраш, пакуль таміўся ў Тамплі, знайшла новага каханка.

Непрыемнасьці насьцiглі і тут. Абыграў сына нейкага буйнога вяльможы. Бедны хлапец, ня ў стане разьлічыцца, спрабаваў скончыць самагубствам. Распачаўся скандал, які дакаціўся да самага верху. Хадзькевіча прыцягнулі да генэралпаліцмэйстэра Хэртля. На пытаньне «Як адважыўся ўзяцца за занятак, які перасьледуецца па закону?» адказаў, што, ня маючы сродкаў для жыцьця, ухапіўся за шулерства «як тонучы за брытву». Варты жалю выгляд героя шматлікіх бітваў ня мог не выклікаць скупую сьлязу ў маладога рамантыка Аляксандра І. Мабыць, за былыя заслугі пад Ачакавым імпэратар прызначыў вэтэрану пажыцьцёвую пэнсію — 1 тысячу рублёў штогод. Але з гораду папрасіў зьехаць.

А Хадзькевіч і без таго не зьбіраўся марнаваць тут свой час. Нуда...



## ЧАСТКА II

Лепш быць першым у правінцыі... Удаліўся ад эўрапейскіх цэнтраў і ад удзелу ў значных падзеях. З гэтага часу гісторыя ягонага жыцьця дайшла да нас у легендах, паданьнях, анэкдотах і дасьціпных афарызмах, якімі іскрылася амаль кожнае слова генэрала.

### І. ХАДЗЬКЕВІЧ - ПРАВАДЫР ВОЙСКА ЗЯЛЁНАГА СУКНА

Тульчын на Валыні — рэзыдэнцыя апошняга вялікага магната на землях былой Рэчы Паспалітай, таргавічаніна Станіслава Шчэснага Патоцкага. Па яго сьмерці, у сакавіку 1805 г., спадчына — 1,5 млн. га зямлі і 130 тыс. сялянаў, перайшла сыну Шчэснаму Ежы, агарнутаму нейкай псыхапатычнаю прагай да азартных гульняў. Тульчын ператварыўся ў зборышча шулераў і прайдохаў, што зьляталіся як крумкачы. Правадыр зграі — Хадзькевіч. Паводле няслушнай заўвагі афіцыяліста Патоцкіх Антонія Хжаншчэўскага: «Больш доблесны на зялёным сукне, чым на полі бітвы». Тут ён заклаў сваю штаб-кватэру, адкуль рабіў вылазкі на кіеўскія кантракты, да Вільні і далей у Эўропу (у прыватнасьці, выконваў некаторыя даручэньні Фушэ).

Аднойчы, суправаджаючы маладога Патоцкага ў падарожжы зь Бярдзічава ў Кіеў і ўбачыўшы ў полі стог, прапанаваў прымітыўную, але настолькі ж, як высьветлілася, азартную гульню ў саломкі. Хто карацейшую выцягне — бярэ стаўку. Ніякі шулерскі досьвед у гэтай забаве ня меў вартасьці, і так дзіўна здарылася, што Хадзькевічу і тут пашанцавала, а Шчэсны Ежы ўсё больш распаляўся... Праседзеўшы пад стогам палову дня, прайграў ня многа ні мала — 14 тыс. дукатаў.

Шчэсны Ежы дзень за днём руйнаваў спадчыну, страчваючы наяўныя грошы, фальваркі, вёскі. Не прайшло і трох гадоў, як апынуўся поўным банкрутам. Толькі адзін Хадзькевіч выйграў у яго два мільёны польскіх злотых. Нехта са знаёмых, убачыўшы ў Тульчыне генэрала пасьля доўгага часу, заўважыў, што той папаўнеў. «Ба! Двух Патоцкіх зьеў!» — пачуў той у адказ.

### II. У ВІЛЬНЮ — ЭЛЬДАРАДА ШУЛЕРАЎ

Зьеўшы «Пілаву», рушыў на Бацькаўшчыну. Уладкаваўся ў Вільні — сапраўдным Эльдарада шулераў. Зажыў па-магнацку. Стварыў уласную гвардыю, а хутчэй выведку з гарэзаў і свавольнікаў усіх сацыяльных групаў. Жартаўліва называў сваіх малойцаў «плёткамі». «Плёткі» мелі права доступу да ягонага стала, дома, багацьцяў. Штодзень бралі золата зь ягоных куфраў. Але за гэта павінны былі быць гатовыя на ўсё: ляцець удзень і ўноч з канца ў канец Эўропы, каб зьдзяйсьняць волю гаспадара, жартаваць, помсьціць, вышукваць прастакоў з грашыма, выведваць, дзе будзе і калі вялікі збор людзей — баль, кірмаш, пікнік ці нешта падобнае, дзе кватаруюць вышэйшыя расейскія афіцэры, ці маюць і ў якой колькасьці наяўныя, ці гуляюць у карты, і калі не, то як можна прывабіць і г.д.

### III. РЭХА СЛАВУТАЙ МІНУЎШЧЫНЫ

Аўстрыйская кампанія 1809 г. зноў нагадала пра былое. Хуткі на рашэньні Хадзькевіч прадаў маёмасьць і нават каштоўнасьці другой жонкі, каб сфармаваць уласны полк у Галіцыі. Не атрымалася па невядомых прычынах...

### IV. ЯГО АДМОЎНАЯ ПРЫВАБНАСЬЦЬ

Габрыэля Пузыніна з Гюнтэраў, дама недурная і добрапрыстойная, у сваіх мэмуарах пад назвай «У Вільні і дварах літоўскіх», безумоўна, не магла абысьці постаць Хадзькевіча. Асуджаючы выхадкі і паводзіны «гульца» і «шулера» (пад гэтымі прозьвішчамі яго ведалі ў Вільні), адчуваецца, глядзела на яго не бяз тайнага захапленьня. Маці Пузынінай паскардзілася аднойчы пану Ігнацыю на тлум з шынка, які знаходзіўся побач зь ейным домам. Гэты тлум не даваў заснуць. Наступнаю ноччу ўсё было ціха. А калі запытала, якім чынам яму гэта ўдалося, — «Гэта мае людзі, — адказаў. — Яны мяне слухаюць».

Жарты, моцна разбаўленыя цынізмам. Ці цынізм жартамі? Асабліва даставалася жанчынам. Мог даць фору Дон Жуану і Казанове разам узятым — гэткі зьбіральны вобраз. Ніводная паненка не магла ўстаяць перад яго д'ябальскаю чароўнасьцю. Шмат разоў браў фіктыўныя шлюбы, меў мноства каханак, разбэшчваў Вільню сваімі «Райскімі вечарамі» ці папросту оргіямі. У тульчынскія часы, калі са Шчэсным Ежы сядзеў пры фараоне ў шынку, узьнялася раптам моцная навальніца. Маланка ўдарыла ў комін і забіла пахолка, які стаяў побач з гульцамі. У Хадзькевіча ніводны мускул не дрыгануў. Не адкладаючы картаў, флегматычна заўважыў: «Калі б у мяне так стрэліла, гаварылі б, што кара Божая».

Спаткаўшы ўбогага, даставаў для яго з кішэні ўсё, што ў жменю ўмяшчалася, ня гледзячы — золата ці срэбра; ці грошы, гадзіньнік, табакерку ня зямлю ўроніць — не нахіляўся за імі, рабілася ўласнасьцю прыслугі. Але мог адмовіць нават у сухой скарынцы жабраку. Зусім непрадказальны.

Ня ўсе дамы ў Вільні былі адкрытыя для генэрала, бо хоць захапляліся ім, але й пабойваліся. Казімір Скібінскі ўзгадвае, як Хадзькевіч заявіўся без усялякага запрашэньня на яго вясельле са сьпявачкай Камінскай 5 лістапада 1814 г. «Прыйшоў каля поўначы. Вядомы ўсёй Вільні як любоўны авантурнік і карцёжнік. Гаварылі пра некалькі дзясяткаў ягоных жонак, якім ягоныя ўласныя лёкаі давалі шлюб. Высокага росту, апрануты балёва, у белых шаўковых панчохах, у чаравіках з дыямэнтавымі спражкамі, чорныя кароткія нагавіцы, белая аксамітная камізэлька, чорны фрак са стужкай (ордэнскай? — А.Ш.), chapeau bas пад пахай».

Доктар Станіслаў Мараўскі мог бы дадаць, што найдаражэйшае адзеньне, найдаражэйшую, заўсёды сьвежую парыскую бялізну насіў наўмысна нядбайна, усё на ім ляжала як бы ад нежаданьня. Фракі падраныя, кашулі пакамечаныя, але белыя, як сьнег.

Аблегчыўшы кішэні гасьцей больш чым на паўтара кіляграма золата, па-ангельску зьнік.

### V. НЕЧАКАНЫ ПРЫЕЗД

Напрыканцы таго ж 1814 г. Хадзькевіч назаўсёды пакінуў Вільню, каб рэшту дзён правесьці ў сваіх уладаньнях на Валыні. Прыезд генэрала парушыў спакой, што быў наступіў пасьля сканаsuccessfully Шчэснага Ежы. Сафія Патоцкая «Грэчанка» добра бачыла небясьпеку. Дзеля зьберажэньня роду трэба было нешта рабіць, балазе памочнікі знайшліся ўплывовыя — сын ад яе першага шлюбу расейскі генэрал Вітэ (ён жа дэ Віт), царскі обэр-шпіён, і жаніх яе дачкі ад другога шлюбу са Станіславам Шчэсным малады флігель-ад'ютант Аляксандра І, начальнік штабу 2-ой арміі ў Тульчыне — Павал Дзьмітрыевіч Кісялёў. Вітэ сутыкнуўся з Хадзькевічам у Кіеве падчас кантракту. Убачыўшы Аляксандра Патоцкага на яго кватэры, седзячым на канапе між панам Ігнаціем і яшчэ нейкім карцёжнікам, вымавіў: «Як мне шкада, Аляксандар, бачыць цябе як Хрыста на крыжы паміж двума разбойнікамі». «Куды больш цікавей бачыць столькі крыжоў на адным разбойніку», — парыраваў Хадзькевіч.

У канцы 1819 г. генэрал за картамі літаральна да ніткі абабраў камісара інтэндатуры Бясчаснава, а камісар разьлічваўся казёнымі грашыма. Повад быў мізэрны, але Вітэ і Кісялёў паклапаціліся аб тым, каб арыштавалі менавіта Хадзькевіча, кінулі ў кіеўскую турму, а адтуль выслалі ў Вятку.

Згодна легендзе, дзякуючы намаганьням апошняй каханкі Хадзькевіча, вясковай дзяўчыны па прозьвішчы Сойка, пра справу стала вядома Аляксандру І. Калі ён запатрабаваў дакумэнты і ўбачыў у іх розныя юрыдычныя парушэньні, у другі раз выратаваў героя Ачакава — памілаваў і загадаў вярнуць назад.

... Пан Ігнацы зразумеўшы, што Фартуна кінула яго сам-насам зь Лёсам, не знайшоў сілаў змагацца ці проста не схацеў. Запіў насьмерць. І ў нудзе, бязьдзейнасьці і нягодах скончыў жыцьцё...

### VI. АПОШНЯЯ ЗАЎВАГА

Карціна супярэчлівага жыцьця генэрала Хадзькевіча была б няпоўнаю, калі б не дадаць яшчэ адну рысу — сьведчаньні графа Жэвускага.

«... Адну толькі рэч шанаваў — рэлігію, у якой быў выхаваны. Ніколі супраць яе не дазваляў сабе найменшага жарту.

Даведаўся раз, што ў Печажы паміраe яго добры знаёмы афіцэр батальёну скарбовай міліцыі Драч. Набажная гаспадарыня Печажа паведамляе Хадзькевічу, што паміраючы ня хоча паяднацца з Богам і сьвятара да сябе не пускае. Хадзькевіч хутка ляціць да Драча і робіць тое, чаго ніхто зрабіць ня мог. Пасьля кароткае размовы Драч просіць сьвятара і паміраe як добры каталік».

**Андрэй Шпунт**

Адам

# СВОЙ



Усё часьцей згадваецца мой горад, якога няма...

Бераг Сьвіслачы, Траецкае прадмесьце, ружовая лазьня, тоўстыя сьцены, маленечкія падсьлепаватыя вокны. Старыя менчукі кажуць, што ў той лазьні падчас апошняй нямецкай акупацыі месьцілася падпольная друкарня, дзе выдавалася антыфашысцкая газэта. Уяўляюцца: стосы набрынялай вільгацьцю паперы, людзі, што выходзяць у ваенную ноч, хаваючы за пазухай скруткі антырэжымных лісткоў, аголеныя кабеты зь дзецьмі, што мыюцца й ведаць ня ведаюць пра патаемную рэдакцыю... Лазьню зьнесьлі, разбурылі сьцены, падобныя да абаронччых муроў. Лазьня не ўпісалася ў рэстаўрацыйны праект. Шкада.

Так не знайшлося месца ў архітэктурных плянах будучага Менску й стадыёну, што некалі стаяў за Палацам спорту, што на праспэкце Машэрава. Стадыён спачатку закінулі, і, як кожны закінуты стадыён, ён пачаў нагадваць свайго прашчура — рымскі Калізэй. Трыбуны пазарасталі быльнягом. Камэнтатарскія будкі страцілі шыбы, а пазьней — рамы. Поле пакрылася ямінамі, у якія зьбіралася вада. Спартоўцы туды не хадзілі, замест іх мясцовыя сабачнікі выгульвалі сваіх улюбёнцаў. Разбураны стадыён мне падабаўся, асабліва ў ціхую, летнюю, перадвечаровую пару. Можна было прысесьці на трыбуне й напісаць хоку пра зьменлівы сьвет і нетрываласьць існага. Стадыён ня проста зьнесьлі, на ягоным месцы выкапалі катлаван, які залілі рачной вадою — такім чынам пашырылі Сьвіслач.

Аднойчы мне давялося назіраць, як у люстры Сьвіслачы адбіваецца полымя пажару. Гарэў кінатэатар «Летні», што некалі стаяў у парку культуры й адпачынку імя пралетарскага пісьменьніка Горкага. У «Летнім» праходзілі самыя позьнія кінасэансы. Пачыналіся яны ў 22-20, а то і ў 22-30. Хадзілі чуткі: што там зьбіраюцца бандыты, і нехта з крымінальнікаў кінуў недапаленую папяросу ў складкі заслоны. Пачаўся пажар. Менчукі з усяго гораду зьехаліся паглядзець на начное відовішча. Пажарнікі асабліва не шчыравалі. «Летні», збудаваны з сухога дрэва, згарэў ушчэнт. Па горадзе лунапі спадзеўкі, што кінатэатар адбудуюць, што «Летні» будзе прыгожым і шкляна-бэтонным. Але ніхто не распачаў адбудоўваць кінатэатар. Неўзабаве скончылася эпоха вялікага кіно. Тэлевізія й відэамагнітафоны забралі ў кінатэатраў іх папулярнасьць. Цэлыя й дагледжаныя кінатэатры стаяць паўпустыя. Некаторым пашанцавала, іх пераабсталёўваюць, як «Беларусь» — перабудоўваюць у музэй сучаснага мастацтва. Пра кінатэатар «Летні» забыліся.

Так пачалі забывацца чырвоныя агітацыйныя шчыты, якімі ўпрыгожвалі горад у часы таталітарнага рэжыму. Ледзь ня кожны заводзкі паркан завешваўся лёзунгамі пра веліч камуністычнай партыі й выключную ролю пралетарыяту ў пабудове сьветлай будучыні. Камунізм не надышоў, як не прыйшоў Гадо ў п'есе Бэкета. Савецкую агітацыйную дыкту зьнесьлі на сьметнік. Пралетары завялі. Папрыціхлі заводы. Усе «Трактарныя», «Маторныя», «Шарыка-падшыпнікавыя»... Менск не належыць пралетарыяту. Пачварная дыктатура рабочых зьмянілася на гадкую дыктатуру электарату. Хаблы ад імя хаблоў запраўляюць у Менску.

Толькі быў і кароткі сьветлы час. Тады ў доміку, дзе адбываўся першы зьезд Расейскай Сацыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі, гандлявалі галяндзкай мэбляй. На тэлевізіі ў фатэлі сядзеў падобны да Пятра Машэрава артыст, курыў люльку, пускаў дым і казаў пра выдатную мэблю з Амстэрдаму. Зараз у дамку ізноў адно музэй расейска-яўрэйска-беларускіх рэвалюцыянэраў. Але мне падабаўся гэты крыты шыфэрам, зялёны аднапавярховы дамок якраз у той час: калі палова была музэем, а палова крамаю, калі не прыпаўзалі ў яго чырвона-карычневыя маргіналы са сьвяточнымі прозьвішчамі, кшталту Зюган. Не прыходзілі, не размахвалі крывавымі анучамі й не агітавалі зьнішчыць Беларусь. Камунякі агітуюць удзень, а ўвечары каля зачыненага дамка зьбіраецца басота й п'е гарэлку за столікамі пад парасонамі.

Цяпер у Менску можна піць гарэлку, віно й піва проста на вуліцы, а ў часы камуністычнага завіхрэньня за гэта забіралі ў адзяленьне. Людзі, што хацелі выпіць, хаваліся ў цёмных кутках паркаў, у пад'ездах, на могілках. Усе менскія могілкі былі неахайныя, непрыбраныя, дзікунскія. Кальварыя не складала выключэньня. Стаяла захламленая сьмецьцем, іржавая, нямечаная. Цяпер Кальварыйскія могілкі прыбралі, пафарбавалі, пачысьцілі й падмялі. Сёлета на іх зноўку пачалі хаваць. Месца каштуе шаснаццаць мільёнаў рублёў. Нядорага. Зьбіраць грошы на аднаўленьне Кальварыйскага касьцёлу менскія каталікі пачалі ў 70-х. Да нас у кватэру прыходзіла маміна сваячка, цётка Вікця. Бацька даў на касьцёл дзесяць савецкіх рублёў. Вікця казала, што ўсе, хто жыве побач з Кальварыяй, ахвотна ахвяруюць. Абрыдла сьметніца, у якую ператварыліся старажытныя могілкі. Касьцёл адчынілі. Вікцін сын — Анатоль — іграе ў ім на арганс. Можна ў нядзелю раніцай схадзіць і паслухаць.

Ня ведаю як хто, а я люблю рок-канцэрты. Быў у Менску час, калі ўсе хадзілі на рок-тусоўкі. У горадзе склалася можа сто, а можа й дзьвесьце рок-камандаў і ўсе лабалі, і ўсе сьпявалі, і ўсе хацелі стаць вялікімі й знакамітымі. Не атрымалася. Цяпер у Менску пануе музыка расейскай эстрады. Ня слухаю й не люблю.

Напрыканцы 80-х здавалася, што яшчэ крок, і нашая «Бонда» ці «Мроя» стануць «Depeche Mode» ці «AC/DC». Ня сталі. Так і з адлегласьцямі. Раней, калі даводзілася прылятаць у стары менскі аэрапорт, што на вуліцы Аэрадромнай, думалася: як далёка аэрапорт ад цэнтру. Цяпер, як зьявіўся Менск-2 пад Смалявічамі, Менск-1 ледзь ня ў цэнтры сталіцы. Фокус. І раніцай, едучы сорак кілямэтраў у Менск-2, думаецца: добра было б, каб... Каб працаваў Менск-1. Каб беларускі рок-гурт «Бонда» займеў сусьветную вядомасьць. Каб Васіль Быкаў атрымаў Нобэлеўскую прэмію. Каб... Дарэмныя спадзяваньні. Ніхто не зьдзівіцца, калі заўтра-пазаўтра аэрапорт Менск-1 наогул зьнясуць, як стадыён за Палацам спорту.

Што зьдзіўляцца, ва ўсе часы ў Менску нехта нешта зносіў і будаваў, будаваў і зносіў. Зьдзіўляе іншае — зьнесьлі ледзь ня ўсю вуліцу Чарнышэўскага, а мой любімы дуб застаўся. У маленстве пад тым дубам, дубам зелянёнькім, я зьбіраў жалуды. Ідучы ў дзіцячы садок, мы з бацькам заходзілі па жалуды. Што можа суцешыць хлопчыка болей за жолуд у кішэні? Ну хіба што каштан. Прыемна зьбіраць каштаны, але жалуды люблю больш. Дуб стаіць, а ніводнага двухпавярховага дамка побач няма.

У нягеглых дамках жылі мае аднакласьнікі. Дзе яны? Ня ведаю. Пэўна, большасьць засталася ў Менску, але мінула трыццаць гадоў, і пазнаць іх не змагу.

Мусіць, не пазнаю Мішу Пракоф'ева, з якім хадзіў у гурток маляваньня да Сяргея Пятровіча Каткова. Мішка выдатна маляваў тралейбусы, Менск і талеркі зь яблыкамі. Сяргей Пятровіч любіў Мішку Пракоф'ева. Пятровіч наогул любіў дзяцей, якія малявалі. Праз гурток Каткова прайшлі ледзь ня ўсе менскія мастакі.

Ігар Сідарук

# Пяць хлябоў з Дабравесьця

*Апавяданьне*

Была змрочная раніца.

Дзеці хацелі есьці. Яшчэ зь вечара. Не, ня зь вечара. Дзеці хацелі есьці заўсёды, колькі сябе памяталі. У хаце даўно не было ані каліўца, ані скарынкі. Але яны яшчэ памяталі, як выглядае ежа.

Асабліва ім падабаўся хлеб. Звычайны чорны хлеб, які дзеці любілі ўмакнуць у ваду і, калі ў хаце вадзіўся цукар, пасыпаць ім зьверху. Калі цукру не было, яго замяняў пясок. Пясок хрумсьцеў на зубах ня горай за цукар. Ды, бадай, і смакам амаль не адрозьніваўся ад таго жоўта-шэрага сыпунку, зь якім, калі выпадала такое шчасьце яны раскашавалі дзень, а то й два.

Яшчэ дзеці любілі звараную неабранай бульбу. Тады яны хапалі яе гарачай з казанчыку ды, прагна абіраючы халоднымі танклявымі пальцамі пяклівае шалупіньне, з насалодаю запіхвалі сабе ў рот, апякаючы языкі ды паднябеньні, ані не зважаючы на гэта. Калі ж казанчык пусьцеў, а люты голад усё роўна сьціскаў да шаленьня маленькія каўтунчыкі, тады дзеці давалі рады й шалупіньню, няхай ужо й астыламу, аднак з тае прычыны зусім не страціўшаму свае смакаты. Але праўдзівая бульба ў іх хаце вадзілася рэдка. Часьцей — усё тое ж шалупіньне, калі яго шчасьціла назьбіраць па якіх сьметніцах ды проста — па загаджаных пустках, яшчэ не аблажаных, не абгледжаных такімі ж, як яны, галечамі. Бывала, што маці проста кідала ў кіпень тоўчанае жалудовае карыцы, і тады дзеці мусілі ласавацца тым варывам, як дзень таму з насалодаю частаваліся бурачковаю гнілою таўчанкаю...

Аднак на гэты раз справа выглядала зусім кепскаю. Ежы ў хаце не было ўжо тыдзень ці болей: ніхто зь сямейцаў проста ня памятаў, калі ды што ж такое яны елі ў апошні раз. А тут, як на тое ліха, самая маленькая двухгадовая Ганначка занядужала ды пачала зыходзіць проста крываваю бягункай. Выклікалі дохтара. (Мэдыцына па-ранейшаму заставалася бясплатнаю, і гэта лічылася ці не найбольш ганаровай заваёвай цяперачаснага ладу...) Таўсмаценькі дохтар, прымружыўшы вока, агледзеў Ганначку, з абыякавым зацікаўленьнем паціскаў ёй на жывоцік ды абвесьціў бацькам свой катэгарычны вырак: калі дзіця не пад'есьць уволю, прычым пажадана, каб гэтым уволістым жратвом была посная гавяда, а яшчэ лепей, сьвінячае сэрцайка, ды пад маркоўнаю поліўкаю, ды каб зеляніны паболей-паболей!, а гарчычка-хрэнчык — гэта ўжо само сабою; то жыць ёй засталося... самі ведаеце колькі дзён.

«А калі ня ведаеце, то скажу проста, — безапэляцыйна абвесьціла раённае мэдычнае сьвяціла. — Жыць вашаму чарвячочку засталося сама болей дванаццаць гадзінак. Ну, можа, трынаццаць, калі ўжо па максымуму!..» І сьвяціла, хукнуўшы ў пусты кулак, у якім, да свайго неабмежнага дзіваваньня, анічога не намацала, расчаравана выкацілася зь іхнага бядотнага жытла пакутаў.

Маці, глянуўшы на амаль што згаслую Ганначку, была захліпала-загаласіла, але бацька гыркануў на яе так, што яна толькі спуджана залыпала павекамі ды ўраз сьцішылася. «Сэрца дык сэрца», — толькі й вымавіў бацька.

І вось надышла тая самая змрочная раніца. Тая раніца, калі дзецям ужо схацелася есьці так, што, здавалася, жываты зараз палопаюць, а пустыя кішкі намотаюцца вакол бэлек пад столлю. І толькі маленькай Ганначцы не хацелася ўжо анічога. Яна ляжала ў рызьзі на бацькоўскім ложку, і ейнае адно паўрасплюшчанае пустое вочка не маліла нават аб

